

З КАЛЯДАМІ!


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


КАЛЯНДАР 2015




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 51 (3058) Год LIX | Беласток, 21 снежня 2014 г. | Цана 4,00 зл. (у тым VAT 5%)


# Міраслаў Раманюк новым старастам Гайнаўскага павета



Падчас нядаўна арганізаваных самаўрадавых выбараў «Камітэт выбарчы — ПСЛ» у Раду Гайнаўскага павета, якая налічвае 17 дэпутатаў, увёў 8 асоб. У час першай сесіі Рады павета, якая адбылася 1 снежня, старастам быў выбраны радны ад гэтага камітэта Міраслаў Раманюк, дагэтуль кіраўнік Гайнаўскага аддзялення Касы сельскагаспадарчага сацыяльнага страхавання. Ён — вопытны самаўрадавец. Быў павятовым радным трох мінулых скліканняў, 2 разы ад Беларуска-народнага выбарчага камітэта, а калі той спыніў сваю дзейнасць, 4 гады назад і цяпер, быў выбраны павятовым радным ад «Камітэта выбарчага — ПСЛ».

«Камітэт выбарчы — ПСЛ» у Гайнаўскім павеце вылучыў кандыдатаў на павятовых радных у 2010 і 2014 гадах. Раней дзеячы і прыхільнікі сялянскай партыі ПСЛ балаціраваліся ад Беларуска-народнага выбарчага камітэта. У 1998 годзе, калі ў рамках праведзенай самаўрадавай рэформы былі адноўлены паветы, больш чым палову радных Рады Гайнаўскага павета ўвеў «Выбарчы камітэт Саюза левых дэмакратаў» і так было ў 2002 годзе. Падчас чарговых самаўрадавых выбараў на аснове «Выбарчага камітэта Саюза левых дэмакратаў» былі створаны ў 2006 годзе «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўскага павета» і ў 2010 годзе «КВВ Выбарчая кааліцыя Гайнаўская зямля», якія таксама здабылі больш чым палову мандатаў (Ян Адамчук з Чыжоў, Ян Корч з Кляшчэляў і Андрэй Скепка з Новага Ляўкова). У гайнаўскай акрузе яшчэ сталі раднымі па адным кандыдаце ад «КВ Права і справядлівасць» — Лех Ян Міхаляк і ад «КВ Грамадзянская платформа РП» Ядвіга Дамброўская. Падчас першай сесіі новаабраныя радныя далі прысягу і папоўнілі павестку дня Рады на выбар старасты, яго намесніка, іншых членаў управы і намеснікаў старшыні Рады, бо першапачатковая праграма прадбачвала толькі выбар старшыні Рады. Як кандыдаты на старшыню Рады Гайнаўскага павета былі запрапанаваны двое радных — Вольга Рыгаровіч, якую падтрымала 8 радных і Лех Ян Міхаляк, за якога прагаласавала 9 чалавек. На двух намеснікаў старшыні Рады запрапанаваныя былі Вольга Рыгаровіч (падтрымала яе 8 радных), Яраслаў Герасімюк (падтрымала 13 асоб) і Андрэй Шварц (падтрымала 11 радных). Кандыдатамі на старасту Гайнаўскага павета сталі, яшчэ да выбару нова, дзейсны віцэ-староста Андрэй Скепка, за якога прагаласавала 8 радных і Міраслаў Раманюк, на якога аддалі свой голас 9 радных. Ужо новаабраны староста Міраслаў Раманюк запрапанаваў кандыдата на свайго намесніка, мясцовую дзяячку сялянскай партыі ПСЛ у Гайнаўскім павеце Галіну Сурэль, за якую прагаласавала 10 радных. Староста запрапанаваў таксама трох кандыдатаў на членаў управы Рады Гайнаўскага павета, радных ад радных Гайнаўскага павета. Праз 16 гадоў, да апошняй сесіі, старастам Гайнаўскага павета быў Уладзімір Пятрочук, які нядаўна быў выбраны ваяводскім радным Падляшскага сейміка ад «ККВ СЛД Лявіца супольна». Калі цяпер «Камітэт выбарчы — ПСЛ» увёў на 17 радных Рады Гайнаўскага павета 8 асоб, а «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» (паўстала на аснове «КВВ Выбарчая кааліцыя Гайнаўская зямля» з 2010 года) здабыла 7 мандатаў павятовых радных, на гайнаўскага старасту быў выбраны радны ад «Камітэта выбарчага — ПСЛ» Міраслаў Раманюк. Намеснікам старасты Гайнаўскага павета стала мясцовая дзяячка сялянскай партыі ПСЛ у Гайнаўскім павеце Галіна Сурэль, якая не з'яўляецца павятовай раднай. Ва ўправу Рады Гайнаўскага павета з пяці чалавек апрача старасты і яго намесніка ўвайшлі яшчэ павятовыя радныя ад «Камітэта выбарчага — ПСЛ» Агнешка Ярмоцік, Іаанна Койла і Міраслаў Кульбацкі. Старшынёй Рады Гайнаўскага павета стаў Лех Ян Міхаляк, выбраны радным ад «КВ Права і справядлівасць», а яго намеснікамі былі выбраныя радныя ад «Камітэта выбарчага — ПСЛ» Яраслаў Герасімюк і Андрэй Шварц.

Павятовымі раднымі ад «Камітэта выбарчага — ПСЛ» сталі 8 чалавек, па 2 асобы ў чатырох выбарчых акругах (Міраслаў Раманюк і Іаанна Койла з Гайнаўкі, Пётр Філіманюк з Курашава, Андрэй Шварц з Чыжык, Яраслаў Герасімюк з Кляшчэляў, Часлава Вілюк з Чаромхі, Міраслаў Кульбацкі з Альхоўкі і Агнешка Ярмоцік з Ванева). «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» здабыла 7 мандатаў павятовых радных, 4 мандаты ў акрузе горада Гайнаўка (Ала Грыц, Вольга Рыгаровіч, Барбара Здзіслава Васілюк і Мікола Алексюк) і па 1 мандаце ў 3 вясковых акругах

[sic — continuation order as printed:] «Камітэта выбарчага — ПСЛ» Агнешку Ярмоцік, Іаанну Койла і Міраслава Кульбацкага, якія былі выбраны на гэтыя пасады з падтрымкай прынамсі 10 радных. Усе галасаванні адбываліся тайна і тады жыхары Гайнаўшчыны, якія прыбылі на першую сесію, выходзілі з залы, дзе праходзіла першае пасяджэнне Рады. За правільным ходам галасаванняў наглядала і лічыла галасы камісія, якую саставілі павятовыя радныя Ала Грыц, Ян Адамчук, Пётр Філіманюк і Часлава Вілюк. Новаабраны староста Міраслаў Раманюк даў «Ніве» інтэрв'ю на тэму сваіх першых намераў.

**— Ці плануеце выканаць аўдыт павета?**

— Плануем выканаць і паказаць нашаму грамадству баланс адкрыцця. Трэба, каб было вядома, якія фінансавыя магчымасці Гайнаўскага павета. Гэта патрэбнае перад планаваннем інвестыцый, каб нашыя жыхары ведалі, якія ў нас магчымасці фінансавання ўласнымі сродкамі.

**— Раней гаварылася аб патрэбе спалучэння сіл Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў у рамках субрэгіёна. Як ставіцеся да гэтай прапановы?**

— Калі гаварыць пра рэалізаванне вялікіх праектаў, супрацоўніцтва паміж нашымі паветамі непазбежнае. Ёсць таксама магчымасць шырэйшага супрацоўніцтва, а да яго абмяркоўвання патрэбныя супольныя размовы.

**— У Гайнаўскім павеце кампактна пражывае многа беларусаў. Ці плануеце садзейнічаць у справе ўстанаўлення двухмоўных указальнікаў з назвамі мясцовасцей на польскай і беларускай мовах у гмінах Гайнаўшчыны, напрыклад падчас размоў з войтамі або раднымі? На падставе кансультацый, праведзеных у салэцтвах Чыжоўскай гміны з яе жыхарамі відаць, што нашыя людзі моцна падтрымліваюць ідэю ўвядзення да публічнага ўжытку назваў вёсак па-беларуску. Амаль усе ўдзельнікі кансультацый у Чыжоўскай гміне, падтрымалі ідэю ўказальнікаў на польскай і беларускай мовах.**

— Калі ёсць воля жыхароў, каб устанавіць дошкі з назвамі іх мясцовасцей па-польску і па-беларуску, трэба яе ўшанаваць. Што тычыцца ўстанаўлення такіх дошак у іншых гмінах, гэта павінна вырашаць мясцовае грамадства паасобных гмін, а з людзьмі трэба размаўляць у гэтай справе.

**— Ужо хутка можна будзе стараццa прыцягнуць новыя еўрасаюзныя сродкі на мясцовыя інвестыцыі.**

— Мы будзем выступаць за еўрасаюзныя сродкі на рэалізаванне павятовых праектаў. Прадбачваем інвестыцыі з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў супольна з гміннымі самаўрадамі. Такія вонкавыя сродкі дазваляюць многа мяняць на лепшае і паскорыць рэалізаванне многіх інвестыцый.

**— Ці прадбачваеце праводзіць арганізацыйныя змены ў Гайнаўскім старастве?**

— Калі правядзем аўдыт павета і зробім баланс адкрыцця, тады можна будзе акрэсліць, што трэба мяняць, хаця я прыхільнік не рэвалюцыйных, толькі эвалюцыйных змен. Карыстаючыся нагодай, дзякую жыхарам Гайнаўкі і павета, якія пайшлі на выбары і прагаласавалі за мяне і ўсіх іншых кандыдатаў на павятовых радных са спіска «Камітэт Выбарчы — ПСЛ». Мы будзем працаваць у карысць усёй грамадскасці нашага павета.

**— Дзякую за размову ў гарачы для Вас час і віншую з выбарам на старасту Гайнаўскага павета.**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Палітычная чума

Пра Беларусь, здаецца, забыліся, прычым усе — і еўрапейцы, і амерыканцы і ўсе астатнія. Акрамя, канешне, рускіх. Тыя пра нас заўсёды памятаюць. А для астатніх нібыта нас няма зусім. Ды і сапраўды, на фоне іншых падзей у свеце Беларусь выглядае нейкім аазісам, або міражом, дзе падзей няма ўвогуле, або амаль няма. Такі варыянцік нікому непатрэбнай Паўночнай Карэі, толькі без ядзернай зброі. Не было б у карэйцаў той зброі, то і пра іх забыліся б даўно, так як пра Кубу. Вось і кубавалі б мы ў трох, не так сумна было б.

Ну зноў распачалася нейкая там мясная вайна з Расіяй. Хіба ж гэта падзея? Традыцыйны для такіх выпадкаў звышэмацыйны тэлевыступ кіраўніка беларускай дзяржавы хіба што гэтым разам страснуў усяго толькі паветра, але не слухачоў. Ні сваіх, айчынных, ні іхных, таксама нібыта айчынных, калі ўсур'ёз успрымаць існаванне агульнай саюзнай беларуска-расійскай, ці расійска-беларускай дзяржавы (тут шмат хто блытаецца з назвай). На грозную інтанацыю беларускага начальніка міністр замежных спраў Расіі ціхім і спакойным голасам заявіў, што калі Расіі будзе патрэбна і яна гэта палічыць мэтазгодным, то Беларусь абавязкова далучыцца да расійскіх антысанкцый супраць шэрагу еўрапейскіх краін. І нікуды яна не дзенецца.

Вось і будуй пасля гэтага свае планы. Вядзі сваю палітыку. Спрабуй павялічыць гандаль з Польшчай ці Нямеччынай. Правodзь з імі перамовы пра інвестыцыі, крэдыты, агульны бізнес... А рускія скажуць „хватит”, і ўсё паляціць кату пад хвост у адно імгненне.

Вось такая ў нас саюзная дзяржава. Нібыта дзяржава, нібыта і назва ёсць, і структуры нейкія, дзе людзі працуюць, заробак атрымліваюць і пад вызначэнне „тунеядзец” не патрапляюць, а мяса з адной часткі гэтай дзяржавы ў другую яе частку вазіць нельга. А вось да антысанкцый далучацца мусіш. Свае аэрадромы для расійскіх самалётаў здаваць таксама мусіш. Мусіш выконваць свой саюзны абавязак па ўсіх кірунках, і як размова дойдзе да гэтага абавязку ў сувязі з расійска-ўкраінскім канфліктам, то страшна тады і падумаць, якія варыянты прыйдзецца разглядаць. А можа такая размова ўжо пайшла? І ў расійскага боку на такіх перамовах з'явіўся патрэбны саюзнік у выглядзе афрыканскай свінячай чумы, якая плаўна і перарасла ў чуму палітычную.

Беларускі кіраўнік напэўна вырашыў трошкі паадбівацца ад навязлівых сяброў, або пагандлявацца з імі, ды крыху папалохаць дарагіх і любых саюзнікаў. Ён гучным голасам, які не церпіць непадпарадкавання, аддаў сваім міністрам загад імгненна знайсці новыя рынкі збыту. Тыя не пярэчылі. Моўчкі выслухалі і кінуліся выконваць. Але ўвесь гумар і адначасова абсурд сітуацыі акурат у тым, што гэты загад смела і рашуча кінуліся выконваць тыя самыя работнічкі, што таксама пад вызначэнне „тунеядзец” не падпадаюць, бо маюць добрыя заробкі, і якія за дваццаць год новых рынкаў знайсці так і не змаглі.

Але ж прадказаць далейшыя падзеі не так ужо і складана. Прыйдзецца рускім аддаць тое, што яны загадаюць, і мяса зноў паедзе ў Расію. Нікуды яно не дзенецца. Вось табе і новыя рынкі. Руская ўсё з'ядуць. Ім вялікае войска карміць трэба, каб вынікі ўкраінскіх рэформаў не выклікалі ў расійскіх салдат зайздрасці.

Ну а пра грозны тон заяў можна будзе забыцца. Лідары саюзнай дзяржавы хутка зноў будуць ветліва ўсміхацца адзін другому. Тут, як кажуць беларусы, воран ворану вока не выдзеўбе. Ці як гавораць з другога боку мяснога канфлікту руская — „милые бранятся — только тешатся”. Ім жа, па вялікім рахунку, і сябраваць з кім — вы бар невялікі. І так будзе працягвацца ажно да наступнага разу, калі расійскаму кіраўніку зноў нешта спатрэбіцца ад беларусаў, і тады расійскія медыкі чарговы раз знойдуць афрыканскую чуму ў беларускай каўбасе.

І тады прыйдзецца зноў загадаць міністрам знайсці новыя рынкі збыту. Ну а пасля саступіць з такім выглядам, што мы нібыта і самыя гэтага хацелі. Нават, калі Расія вырашыць размясціць у нас ядзерную зброю. Вось тады пра нас успомніць усе. І загавораць пра нас не менш, чым пра Паўночную Карэю. Толькі ці трэба нам гэта?

**Віктар САЗОНАЎ**

# Каб!



Літаратурныя постаці, як блудныя душы, усё шукаюць сваіх рэальных эквівалентаў. Часам знаходзяць іх у кожным з нас, у кожным пакаленні, незалежна ад таго, як даўно яны былі створаны сваімі аўтарамі. Але бывае, што бесцялесна томяцца на працягу многіх гадоў на ўскрайне жыцця, у кніжным анекдоце, у літаратурных дыскусіях за столікам у кафэ. Менавіта такой фігурай быў Ёзэф К., незабыўны герой «Працэсу» Франца Кафкі — дваццацівечнага аўтара, які чэрпаў з культуры як нямецкай, так і чэшскай ды габрэйскай. Ён туляўся па бездарожжах уявы чытачоў амаль сто гадоў. У апошні час права на яго духоўную спадчыну ўзурпуе нейкі Адам Г. Ці Ёзэф К. на самой справе апынуўся ў яго асобе?

У Кафкавым «Працэсе» змяшчаецца разбуральны тэзіс: кожны з нас вінаваты. Не ў чымсьці канкрэтным. Віна з'яўляецца часткай чалавечай ідэнтычнасці. І не таму, што чалавечая прырода хавае нейкія д'ябальскія сілы, якія рана ці позна штурхаюць чалавека да грахоўнага злачынства: супраць закона, маралі, добрых нораваў, годнасці. Але таму, што віна з'яўляецца непазбежнай. Праблема заключаецца ў тым, што яна не памечана, як гейзенбергскі элемент. Мы можам апісаць яго прычынна-следчую логіку, але калі спрабуем вызначыць сутнасць віны, волей-няволяй выклікаем трансфармацыю яе семантычнага апарату. У выніку тое, што павінна было быць вызначана, рухаецца вакол новых кантэкстаў пазнавання, змяняючы пры гэтым сваё размяшчэнне ў адносінах да вінoўніка. Можна быць упэўненым у тым, што ён вінаваты. Немагчыма толькі ў дакладны спосаб устанавіць, на чым стаіць гэтая яго віна.

З Ёзэфам К. знаёмімся ў найцяжэйшы для яго момант, калі абсурднасць няяўнага боку чалавечага жыцця пачынае ўвязваць яго постаць у экзістэнцыяльныя залежнасці, за якія ён не адчувае адказнасці. Адмова ад адказнасці за штосьці гэта занадта слабы ключ нявіннасці. Такім чынам, трэба вызначыць віну. Толькі што пра віну героя «Працэсу» не даведваемся нічога дэталёвага. Гэтак як і пра віноўніка. Адзінае, што пра яго вядома напэўна гэта тое, што з'яўляецца ён асобай з невыразнай ідэнтычнасцю і ў нявызначаным узросце, якую абвінавацілі па незразумелых прычынах. Такім чынам, мы не маем да Ёзэфа К. ні спагады, ні антыпатыі. Таксама мы не адчуваем сілы, каб абараніць яго ці абвінаваціць. Так што застаецца ён самому сабе. Яго будучыню падкрэслівае туманны гарызонт, які ўсталёўвае або апраўданне, або прысуд. На жаль, Кафку не ўдалося завяршыць рамана. Або тое, што яго не скончыў, сведчыць аб тым, што над яго літаратурнай візіяй панавала творчая асцярожнасць. Працэс над Ёзэфам К., над усімі намі, працуе бесперапынна. Наша віна не факт, але толькі магчымасць, якая ўвесь час пашыраецца з новымі кантэкстамі падзей прагрэсавальных на працягу доўгага часу. На нашы адмовы. На нашы жыццёвыя памылкі. На наша невуцтва. На напышлівасць. Абыякавасць. Кожная эпоха, нават дэкада, іначай інтэрпрэтуе гэтыя заганы. У рэшце рэшт, рана ці позна прагучыць прысуд.

Кожны чалавек мае права, але і абавязак даказваць сваю невіноўнасць. Таксама Адам Г. і яго цёмная кампанія. Гаворка пра «мадрыдскую афёру» і фінансавыя злоўжыванні, да якіх дэпутаты дапусціліся на крыўду польскіх падаткаплацельшчыкаў. Тым не менш, іх віна, на самой справе не мае якога-небудзь значэння, хоць яна паказвае, што сістэма падсправаздачнасці паноў дэпутатаў з дзелавых паездак кульгае і спрыяе злоўжываням. А яны, здаецца, шырока распаўсюджаны ў польскім сейме, абражаюць добрыя норавы і пачуццё грамадзянскай справядлівасці. Тут важным, не толькі ў выпадку Адама Г., з'яўляецца тое, якую выбраў ён лінію абароны. Вядома, што высакародны чалавек не будзе абараняцца як нейкае жуллё, якое заўсёды звальвае віну на іншых; на варожыя змовы, на паляванне на ведзьмаў у СМІ. Адама Г. у сувязі з нявызначанасцю тае ж віны, няма як проста назваць злодзеем. Але ўжо тое, што бароніцца перад вылучанымі супраць яго абвінавачаннямі як махляр і першы з краю дуралей даказвае (да майго вялікага аблягчэння), што ён не мае нічога супольнага з Ёзэфам К.: нічагуткі са шляхетнага чалавека. Каб такіх дэпутатаў не было шмат. Каб ані аднаго. Каб гэтыя жаданні былі сапраўдныя.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Новая ўправа — сутычка

Усё паказвае на тое, што кіруючая Падляшскім ваяводствам самаўрадавая кааліцыя ПСЛ-ГП не будзе лёгкай. Да першага кааліцыйнага сутыкнення дайшло на сесіі 8 снежня ў час выбару новай управы ваяводскага сейміка, на чале якога галасамі ПСЛ (дзевяць месцаў) і ГП (восем месцаў, пры падтрымцы адзінага ваяводскага раднага ад СЛД (Уладзіміра Пятрочука) і супраціве радных клуба ПіС (дванаццаць радных) стаў Мечыслаў Башко ад ПСЛ. У такой самай прапорцыі галасоў быў абраны новы старшыня сейміка — праф. Марыян Шаматовіч, у папярэдні перыяд радны ад СЛД, які на выбарах 16 лістапада балатаваўся са спіска ГП. За 15 хвілін да пачатку сесіі кіраўнікі падляшскіх структур ПСЛ Войцех Дзяжгоўскі і ГП Роберт Тышкевіч паведамілі журналістам, што ва ўправе ваяводства ПСЛ мае несці адказнасць за сельскую гаспадарку, сельскія абшары і еўрасаюзныя сродкі звязаныя з імі, ахову здароўя, транспарт і інфраструктуру, супрацоўніцтва з замежнымі краінамі і прасоўванне ваяводства ды гаспадарку нерухомасцямі. Грамадзянская платформа мае заняцца рэгіянальным і грамадскім развіццём, а таксама еўрасаюзнымі датацыямі для гэтых мэт, нацыянальнай спадчынай, адукацыяй, культурай, турызмам і спортам, а таксама інфармацыйным грамадствам, ахowай навакольнага асяроддзя, гарадскім планаваннем, інвестыцыямі і кантролем уласнасці. У ходзе пасяджэння без праблем выбралі — у адпаведнасці з кааліцыйным пагадненнем — па-за маршалкам, намеснікаў маршалка з ГП: дасюлешняга падляшскага ваяводу Мацея Жыўну і дасюлешнюю старшыню Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Арэс» Анну Нашкевіч. Ускладненні пачаліся пры выбары аднаго з двух ПСЛаўскіх членаў управы. Першым стаў Ежы Ляшчынскі, намеснік дырэктара Агенцтва па рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі. Але галасамі радных ГП не прайшоў кандытат ПСЛ Цэзары Цеслюкоўскі, які ў гэтым тэрміне ўвайшоў у сеймік са спіскаў ПСЛ, а раней — з моманту яго стварэння — быў прадстаўніком рэгіянальнай ГП. На працягу двух гадоў уваходзіў ён у састаў папярэдняй управы, але Платформа адняла яму свае рэкамендацыі ў сувязі з абвінавачаннямі Цэнтральнага антыкарупцыйнага бюро, і ён выйшаў з ГП, таму што — як казаў — гэтая партыя не мае нічога, каб яму прапанаваць. Падтрымку кааліцыйнай большасці атрымаў яшчэ «людовец», калісь таксама звязаны з ГП, старшыня сейміка папярэдняга склікання Багдан Дыюк, не хаваючы таго, што гэты выбар стаў для яго нечаканасцю.

11 снежня журналістам было прадстаўлена хто і чым мае займацца ва ўправе. Незадоўга да прэс-канферэнцыі абавязкі раздзяліў маршалак Башко. Ужо пры ўваходзе ў залу пасяджэнняў па мінах віцэ-маршалкаў ГП было відавочна, што нешта атрымалася не так. Аказалася, што дэпартамент Еўрапейскага сацыяльнага фонду маршалак перадаў у рукі Багдану Дыюку, які будзе адказваць, між іншым, за здароўе, але не выключыў адстаўкі ўжо ў студзені-лютым з гэтай функцыі. Для віцэ-маршалак ад ГП Анны Нашкевіч, замест публічна заяўленай ёю сваёй гатоўнасці вырашаць аб фондах ЕС, засталіся б дэпартаменты адукацыі, спорту, турызму і інфармацыйнага грамадства ды Бюро інвестыцый. Прытым ахова навакольнага асяроддзя апынулася пад наглядам самога маршалка, а не прадстаўніка ГП. Каментары прадстаўнікоў ГП ва ўправе былі кароткімі.

Віцэ-маршалак Нашкевіч: — Я прымаю да ведама гэтае рашэнне.

Віцэ-маршалак Жыўна: — Гэты падзел разглядаем як часовы і прадставім яго ўладам нашай партыі пад увагу.

Маршалак Башко (нарадзіўся ў Бартнышчыне Шудзялаўскай гміны ў каталіцка-праваслаўнай сям'і; размаўляе на сакольскай беларускай гаворцы) падвёў вынікі свайго рашэння: — Мы на тым жа цягніку, і кірунак такі ж самы: лепшае развіццё Падляшскага ваяводства, выкарыстанне фондаў ЕС. Пагадненне пагадненнем, давайце пакінем яго палітычным партыям.

Неафіцыйна чуецца, што рашэнне аб падзеле абавязкаў не зусім адпавядае кааліцыйнаму пагадненню, што гэта пстрычка, якую ГП даў маршалак Башко ад імя ПСЛ за блакаванне кандыдата Цэзары Цеслюкоўскага. Гэта дэманстрацыя, што ПСЛ у партнёрскай сувязі на самой справе дамінуючы бок.

ПСЛ увайшло ў кааліцыйнае пагадненне з ГП, а не з ПіС толькі таму, што такое пагадненне ў сіле на ўрадавым узроўні, і так распарадзіліся штаб-кватэры гэтых партый. Парламенцкія выбары — у наступным годзе.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**




Мал. Мірка Здрайкоўскага

# БЕЖАНСТВА нараджэнне легенды

**У 2015 годзе адбудзецца некалькі навуковых канферэнцый пра „бежанства", пакажуцца новыя кніжкі, зборнікі артыкулаў і шмат імпрэз культурнага характару, якія будуць напамінаць пра лёс паўтара мільёна праваслаўных беларусаў, якія летам 1915 года вымушаныя былі пакінуць свае вёскі і падацца на невядомыя для іх прасторы Расійскай Імперыі. Быў час калі ўдзельнікі гэтай падзеі жылі сярод нас і пастаянна ўспаміналі шматгадовую вандроўку па далёкім усходзе. Хтосьці быў у Сібіры, хтосьці на Кубані, а нехта апынуўся і на Каўказе. Для пакалення, апошнія прадстаўнікі якога адышлі з жыцця ў дзевяностых гадах XX стагоддзя, была гэта самая важная падзея ў іх жыцці. У пераважнай большасці такі лёс выпаў на долю сялян, часам нават непісьменных, якія апрача сямейных расказаў не пакінулі ніякага матэрыяльнага доказу, які ілюстраваў бы іхнюю вымушаную вандроўку па расейскай зямлі. Сталі яны сведкамі падзення існуючага парадку — царскай улады і аўтарытэту Царквы, шаленства, якое ахапіла хрысціянскі рускі народ, дзякуючы бальшавіцкай секце і жахлівай разні, сэнсу якой не разумелі.**

Расказы бежанцаў на пакаленні іх дзяцей і ўнукаў наогул не рабілі вялікага ўражання. Першыя пражылі кашмар Другой сусветнай вайны і таксама жахлівы перыяд пасляваенных гадоў, калі па вёсках Беласточчыны бегалі ўзброеныя змагары за „свабоду і дэмакратыю". Мелі і яны сваё бежанства — нехта ўцякаў ад саветаў, нехта ад немцаў, а нехта ад „праклятых салдат". Пра пакаленне ўнукаў уцекачоў 1915 г. таксама можна сказаць, што працягвалі традыцыю бежанства. Яны ўцякалі не ад страху перад ворагам і нікім непрымушаныя — але ўцякалі масава, пакідаючы свае вёскі, сяліліся ў гарадах, дзе сустрэліся з цывілізацыйнай адметнасцю, так як іх продкі ў 1915 г. Умовы жыцця ў новай цывілізацыі прымушалі іх як найхутчэй адкінуць ад сябе ўсё, што асацыявалася з сялянскай традыцыяй продкаў. Гісторыя жыцця дзядоў і бацькоў нічым не заахвочвала ісці іх следам.

У горадзе, найчасцей у сем'ях праваслаўных палякаў, нарадзілася пакаленне праўнукаў уцекачоў 1915 г., якому само слова „бежанства" стала інтрыгуючым. Для большасці расказ дзядоў, ці бацькоў пра вандроўку продкаў падчас Першай сусветнай вайны — гэта самая даўняя гісторыя сямейнага жыцця. Ужо некалькі гадоў шматлікія прадстаўнікі пакалення інтэрнэту шукаюць звестак пра бежанства. Узнікаюць спецыяльныя сайты, маладыя людзі запісваць ад сваіх бацькоў, ці дзядоў тое, што запамяталася ім з расказаў бежанцаў. Найцікавейшае тое, што ўзнікае новая форма ідэнтычнасці праваслаўных. Дваццаць год пасля таго, калі адышлі апошнія бежанцы, з'явілася пакаленне іх нашчадкаў, якое знайшло след продкаў у вялікай гісторыі і ганарыцца гэтым фактам.

Нядаўна да беластоцкай даследчыцы звярнуўся мінскі журналіст з пытаннем: „Адкуль у вас, польскай вучонай, зацікаўленне гісторыяй Беларусі?". У адказ пачуў: „Прабачце, але мае продкі былі ў бежанстве". Ва ўмовах Беласточчыны такая дэкларацыя абазначае найчасцей, што гэты чалавек не вырастае з лацінскай цывілізацыі. Амаль кожны, хто цяпер называе сябе беларусам, рускім, ці праваслаўным палякам можа сказаць — „мае продкі былі ў бежанстве".

Крыніцай ведаў пра бежанства для прафесійных даследчыкаў і аматараў з'яўляецца зборнік успамінаў уцекачоў 1915 г., падрыхтваны журналістамі „Нівы" ў канцы дзевяностых гадоў, азагалоўлены *Бежанства 1915 года*. Хаця кніжка была выдадзеная тыражом пяцьсот асобнікаў, але дзякуючы інтэрнэту яе змест стаў вядомы гісторыкам з далёкага Вроцлава, Познані, Кракава, Мінска, ці Гомеля.

## Былі ў бежанстве

Бежанства пачалося з ашуканства і прапаганды царскіх улад пра зверства немцаў, якія быццам бы мелі страшэнна здзекавацца над праваслаўным народам. Камандаванне Расіі прымяняла ўстарэлую тактыку „спаленай зямлі", якая ў нічым не дапамагла імперыі і ўскладніла жыццё для паўтара мільёна беларусаў. Праваслаўныя сяляне на прапаганду, якая праводзілася праз пасрэдніцтва Царквы, адгукнуліся цалкам нармальна — лепш патраціць маёмасць, чым жыццё — і, уцякаючы перад жахлівымі немцамі, масава накіраваліся на ўсход. Апошні вобраз, які пабачылі ў сваіх вёсках, гэта агонь палаючых хат і гаспадарчых пабудоў. Ад'язджаючы, ведалі, што на іх панадворках застаўся толькі попел.

Катастрофа ўцекачоў пачалася з першых дзён вандроўкі. Шляхі на ўсход у спякотныя жнівеньскія дні найчасцей вялі праз спаленыя вёскі. Некаторыя да бліжэйшага чыгуначнага вузла ехалі 5-6 дзён. Найгоршым быў недахоп пітной вады для людзей і жывёлы. Пілі затым усё, што напамінала ваду. Паслядоўнасці былі маланкавыя. Побач дарог, па якіх перамяшчаліся бежанцы, выраслі праваслаўныя крыжы. Першымі ахвярамі бежанства сталі найчасцей наймалодшыя і найстарэйшыя.

Расія, якую пабачылі ўцекачы з Беласточчыны, уразіла сваім багаццем і ветлівасцю людзей. Ніхто не застаўся без ежы і даху над галавой. Прапагандыцкая літаратура, якая нам найчасцей даступная, паказвае вобраз дарэвалюцыйнай Расіі як дзікай і прымітыўнай краіны. Тым часам бежанцы пабачылі свет, які з іх пункту гледжання быў казачным. Амаль ніхто не планаваў вяртацца дадому пасля заканчэння вайны. Змест даступных успамінаў бежанцаў паказвае аднак, што рускіх пабачылі яны як людзей іншай культуры, традыцыі, а нават веравызнання. Шмат хто апынуўся сярод рэлігійных супольнасцей, якія да афіцыйнай Царквы не мелі ніякага дачынення. Пабачылі лакальных містыкаў, прарокаў, апосталаў, вакол якіх аб'ядноўваліся тысячы людзей, называючых сябе сапраўднымі праваслаўнымі. Некаторыя бежанцы пасля вяртання на Беласточчыну прывезлі з сабой новыя ідэі, якіх паслядоўнасцю сталі шматлікія секты. Селянін Ілья Клімовіч з Сакольшчыны, які вызначыўся як прарок Ілья, аб'яднаў вакол сябе некалькі тысяч вернікаў, якія разам з гэтым душпастырам суполна рыхтаваліся да непазбежнага канца свету. У Расіі разам з палітычным крызісам такія рэлігійныя групы, лідары якіх давалі адказы на ўсе, нават найбольш складаныя, пытанні, узнікалі ў кожнай губерні.

Пасля бальшавіцкага перавароту жыццё ў Расіі стала невыносным. Бежанцы яшчэ больш выразна пабачылі адметнасць рускага люду. Зусім не разумелі, за што ішла крывавая разня, хто з іх і чаму стаў чырвоным, а хто белым, і чаму ўсе яны пашалелі. Жыццё сярод шалёных і адурманеных дзіўнымі ідэямі расіян для беларускіх сялян аказалася бесперспектыўным. Хаця і ведалі, што ў родных вёсках не засталося нічога апрача зямлі, у пераважнай большасці рашыліся вяртацца дадому. Падарожжа з краіны, дзе трывала грамадзянская вайна, цягнулася найчасцей некалькі месяцаў. Ад голаду і хвароб ды па іншых прычынах у апошні перыяд пабыўкі ў Расіі загінуў амаль кожны трэці бежанец.

Успаміны першых месяцаў жыцця на сваёй зямлі прадстаўляюць жудасны вобраз змагання за выжыванне. Выязджалі з Расіі, а калі вярнуліся тут была ўжо Польшча, краіна якой не ведалі, дзе ўспрымалі іх як чужынцаў і падазроных. Большасць новае жыццё пачынала з пабудовы зямлянкі, ці шалаша. Амаль кожнаму запамятаўся голад, некаторым суп з травы, іншым — расол з вароны. У яўрэяў пазычалі коней і зерне, каб прывесці ва ўжытак поле і нешта на ім пасеяць. Лягчэй стала, калі вырасла свая бульба.

Адбудова дамоў, гаспадарчых будынкаў і ўсяго, што неабходнае ў сялянскай гаспадарцы, трывала доўгімі гадамі. Кожны выпрацаваны грош трэба было накіраваць на вяртанне патрачаней у 1915 г. інфраструктуры. Адтуль ва ўспамінах пра міжваенны перыяд дамінуе надалей вобраз галечы, пачуццё бязвыхаднасці і прыніжанасці. Вёска нанава стала своеасаблівым гетам, з якога не было куды вырвацца.

Тым часам улада патрабавала ад нядаўніх бежанцаў падаткаў і патрыятычнага стаўлення да новай дзяржавы, узамен не прапанавала нічога, хаця б рэалізацыі гарантаваных канстытуцыяй грамадзянскіх правоў. Людзі, якія былі сведкамі падзення вялікай імперыі, не былі ў змозе змірыцца з палітыкай, якая вызначыла ім ролю каланіяльнага люду. Кожная форма антыдзяржаўнага супраціву і пратэсту знаходзіла тут сваіх прыхільнікаў. Падтрымку мелі і камуністы, абсурдныя лозунгі якіх фактычна былі непрымальныя для сялянскага асяроддзя. Некаторыя ўцякалі ў рэлігійны містыцызм, сектанцтва і, так як група Ільі Клімовіча, чакалі вырашэння, кранаючых іх лёс, проста з нябёсаў.

Бежанства разбурыла існуючы ад вякоў грамадскі, сацыяльны і рэлігійны лад жыцця паўтара мільёна праваслаўных жыхароў Беласточчыны, Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны. На працягу кароткага часу некалькі раз усё вакол іх мянялася — палітычныя рэжымы, дзяржаўнасці, патрабаваныя ўладай каштоўнасці палітычнага, рэлігійнага і этычнага характару. Гэта была сапраўдная рэвалюцыя ў жыцці нашых дзядоў і прадзедаў. Ніякая рэвалюцыя не абыходзіцца без коштаў. Ахвяр бежанства ніхто яшчэ нават не пачаў лічыць.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

## II сесія Рады гміны

9 снежня 2014 г. у Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася II сесія Рады гміны. Асноўным пунктам пасяджэння была прысяга новаабранага войта Міхала Врублеўскага. У цырымоніі ўдзельнічалі радныя, праваслаўныя святары а. Юры Пліс з Чаромхі-Станцыі і а. Рыгор Наўмовіч з Кузавы, павятовая радная Часлава Вілюк, прадстаўнікі пагранічнікаў і паліцыі, кіраўнікі гмінных службовых адзінак, солтысы ды шырокае кола жыхароў пасёлка. А гэтых апошніх схлынула процьма. Усе месцы для публікі былі заняты. Сесію адкрыў старшыня Рады гміны Сяргей Смык. У час прэзентацыі парадку пасяджэння сакратар Марыя Іванюк прапанавала ўключыць два дадатковыя пункты: выбары


Фота Уладзіміра Сідарука

Войт Міхал Врублеўскі пасля прысягі

сталых камісій — развіцця і бюджэту, затым рэвізійнай камісіі. Прапанова была прынята аднагалосна. Першым пунктам парадку пасяджэння было ўручэнне Міхалу Врублеўскаму пасведчання аб выбары на пасаду войта. Дакумент уручыла старшыня Гміннай выбарчай камісіі Валянціна Верамчук. Затым наступіла цырымонія прысягі і... віншаванні. Ад імя працаўнікоў гміны букет кветак уручылі скарбнік Мірaслава Кандрацкая-Найбук і сакратар Гміннай управы Марыя Іванюк. Букет кветак з найлепшымі пажаданнямі перадала таксама павятовая радная Часлава Вілюк. Другі букет перадала яна старшыні РГ Сяргею Смыку і павіншавала ўсіх радных. Войт Міхал Врублеўскі падзякаваў выбаршчыкам за падтрымку ягонай кандыдатуры ў час выбараў і абяцаў кіраваць гмінай добрасумленна і справядліва ў карысць лакальнай грамадскасці. У знак прызнання і падзякі войт Міхал Врублеўскі ўручыў букет кветак Дануце Радзікоўскай, свайму выбарчаму камісару. Пасля адбыліся выбары камісій. У склад першай камісіі ўвайшлі ўсе радныя — пятнаццаць чалавек. У час яўнага галасавання старшынёй выбралі Марыю Дубягу, а намеснікамі Надзею Дудар і Пятра Васюкевіча. Старшынёй Рэвізійнай камісіі была выбрана Альжбета Каліноўская з Кузавы — радная III склікання, членамі — Янка Купрыцюк і Яўген Доцнік.

На гэтым II сесія Рады гміны закончылася. **Уладзімір СІДАРУК**

## Конкурс пра Нараўчанскую гміну

Таварыства сяброў Нараўчанскай гміны запрашае да ўдзелу ў конкурсе пад загалоўкам „Найпрыгажэйшыя месцы, аб'екты, помнікі прыроды і гісторыі ў Нараўчанскай гміне". Літаратурныя творы, інтэрв'ю, а таксама мастацкія працы і фатаграфіі на адвольныя тэмы прысылайце да 30 ліпеня 2015 года ў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

Па дэталёвую інфармацыю можна званіць у нараўчанскую бібліятэку да Анны Стульгіс на нумар тэлефона 85 685 80 34 у гадзінах яе працы ад 10 да 18. **(яц)**

# З „Нівы" даведаўся...

**Новы нумар „Нівы", з нядзельнай датай, з друкарні выходзіць ужо пасля поўдня ў папярэднюю сераду. У кіёсках і крамах новая „Ніва" ўжо ў чацвер. Аб'явы ў прынцыпе павінны быць на наступны тыдзень. Але ў гэты раз інфармацыю аб культурнай падзеі, што пачыналася ў 17.00 у чацвер у кавярні „Змена клімату", пусцілі мы ў новы нумар. Хто купіць „Ніву", адразу прачытае і прыйдзе на мерапрыемства, дзе героем будзе Багдан Дудко і ягоная новая, польска-беларуская кніга „Даліна. З-над Нарвы і Свіслачы", выдадзеная „Нівай" і Радыё Рацыя. І ўжо дзве асобы, па вестцы з нашага свежага тыднёвіка, апынуліся ў гэтым літаратурна-мастацкім клубе сярод аматараў культуры і паэтычнага слова.**


Багдан Дудко і Уладзімір Клімюк

Бачыцца шмат знаёмых твараў на розных культурных імпрэзах, родам з усяе Беласточчыны, якіх прыцягвае таксама хтосьці ці штосьці са сваёй ваколіцы. Розныя яны па пакаленнях, гэтыя аматары роднай культуры, сябры „Нівы", і па прафесіі — неабавязкова шчыльна звязаныя з літаратурай, мастацтвам ці школьніцтвам. Вось убачым ветэрынара Анатоля Бахарэвіча (родам з-пад Харошчы), медсястру Алю Колпу (родам з Ялоўкі), і сёння тут, на „Даліне", даведаўшыся са свежай „Нівы" — настаўнік кравецкай прафесіі — беластачанін Уладзімір Клімюк, родам — так як і герой сустрэчы — з Цісоўкі ў Міхалоўскай гміне. А з „Нівай" быў ён ужо тады, калі і мяне, і Багдана Дудко, яшчэ і на свеце не было. Пакуль пачнецца размова вядучай сустрэчу з аўтарам кнігі, чытач набудзе і пачне свой аповед і пра родную ім вёску, і пра выдаўца двухмоўнага паэтычнага зборніка-альбома „Ніву", свайго роднага тыднёвіка — выдання беларусаў у Польшчы. А круціўся ён пры беларушчыне яшчэ з малалецтва, са словам і песняй — выступаў у беларускім хоры, што дзейнічаў пры Беларускім таварыстве, але рэпетыцыі вялія... пры рэдакцыі „Нівы", адкуль было многа спявачак.

— Тады ўся беларушчына была разам. Быў такі цэнтр — дзе была рэдакцыя „Нівы". Мы, маладыя беларусы Беластока, заўсёды трымаліся пры „Ніве". Пісаў я ў „Ніву", друкаваўся, вось да мяне ліст з „Нівы" ў адказ на карэспандэнцыю, у якой я пісаў пра старыя назвы Беластока, з пажаданнямі поспехаў у вучобе, падпісаны Верай Леўчук, якая тады вяла карэспандэнтаў. Я вучыўся тады ў настаўніцкай студыі, — кажа срэбнавалосы Уладзімір Клімюк. — Я пісаў: „Сапраўды прыходзіцца задумацца нам, жыхарам горада Беластока, як настойліва замазваюцца назвы нашых старых пасёлкаў. Я думаю, што „аседле Пяста" магло б называцца аседлем Баяры або Пячуркі. Старыя назвы лепш падыходзяць да каларыту...". Я запісваў таксама песні з маіх ваколіц, з Цісоўкі, якія спявалі мая мама Гандзя і бабуля Саламея. Цяпер спісваю гісторыю роду. Пішу і далей. Падабаецца мне тое, што „Даліна" па-польску і па-беларуску, бо ў нашай вёсцы па-свойму гаварылі ўсе, і католікі, і праваслаўныя. Я рады, што Цісоўка выгадавала такога вумніка, такога хлопца, хоць хрышчанага ў касцёле, які ўсё ж хоча дакласціся да сваёй беларускасці. Бо некаторыя ўцякаюць, як і некаторыя мае сваякі. Мой дзядзько Юрко, і другі, Ёзік і мая матка хрышчаны былі ў царкве. Але потым, калі бабка мая з Падазеран выйшла замуж, дык майго дзеда перацягнула ў другое. Калісь, як яны радзіліся, у Ялоўцы царквы не было, вазілі хрысціць аж у Свіслач... А прыехалі ў Беласток — і яны ўжо шчырыя палякі. А тутака хлопец бярэцца, апісвае родную старонку, паказвае, гэта павінна паўплываць на якісь, можа, одум? Гэта ж такое багацце. Калісь, як прыязджалі ў Цісоўку мае дзеці, сын і дачка, спатыкаліся з Багданам (але я яго першы раз бачу), казалі: з гэтым Дудкавым хлопцам то з адным так можна добра пагаварыць, такі талковы. Збіраліся на лаўцы вечарам пасядзець, як калісь у нас было. І гэта, што ён зрабіў — гэта не толькі для сябе. І яшчэ хачу пагаварыць з ім, каб ён збіраў забытыя назвы, месцаў, якія нам залілі. Такое хараство. Мы калісь, як пастушкі, пасвілі кароў, тыя тапаграфічныя назвы ведалі... Скажам, лес, назва „Калено", „Грудок" — пад Трыма соснамі выпалены груд... Калісь, як ехалі да моста, па левай руцэ — рог такі, гэта быў Задні груд. Мы там пасвілі кароў. Я быў такі зачараваны гэтым месцам, што там так хораша, бярозкі распускаюцца... Родныя месцы. Мы заганялі кароў аж пад Семяноўку, аж за Пшчолку, нават за Нарву раз перайшлі каровы, пераплылі, семяновец нам іх перагнаў... Пераказваю памяць — там найпрыгажэйшая ваколіца. Ляжым пад бярозаю, сонца свеціць, а я думаю: „Як пайду я калісь у свет — мы малыя чалавекі былі, але марылі — куды я падзенуся? Як то буду жыць? За што зачапіцца?". Хадзіў я ў школу ў Шымках, адразу ў трэці клас пусцілі. Канчалі мы школу. Жэня Якубцова, Толік Якубцоў, Ягораў (ён пасля застаўся ў войску), Фэлік Лясота — стаў доктарам у Гайнаўцы... — усе мы разам хадзілі. А я кінуў вучыцца. Папрасіўся ў бацькоў: „Аддайце мяне за краўца". Помню, хто на вёсцы за немца найлепей меў: кравец, шавец, каваль. Паслалі да Янеля. Як ад Лукшы ехаць, такая хатка была, Трацякоў Юрык, а тая на рагу... Я там зіму правучыўся, а потым Грыка з Навасад, Ванька, кажа: „Трэба нам падвучанага краўца". А ўжо мой бацька кажа: „Ну так, мой Валодзя ўжо шые!" Ну што там на вёсцы пашыеш — світку якую зрэбную... Ён мяне ўзяў, але не быў ён з мяне вельмі задаволены — думаў, што будзе мець вялікага памочніка. Але дзякуй яму (нехай зямля будзе яму пухам), што ён мяне — а гэта ацэньваю цяпер — затрымаў. Затрымаў мяне, хоць я яшчэ не быў майстар. Гэта было ў чэрвені, а да восені мы ўжо ў Нараўцы заснавалі кравецкі кааператыў. Там я працаваў, пасля выслалі мяне на курсы закройшчыкаў у Эльбланг. Там я іх кончыў у 1952 годзе, а пасля я быў у Нараўцы кіраўніком гэтай нашай „спульдзельні" тры гады. У Гайнаўцы рабілі заказы. З Нараўкі, аднак, усе ўцякалі, перспектывы не было... А ў Нараўцы ў мяне была сімпатыя (і цяпер яна мне сніцца), але яна была надта цваная, а я быў яшчэ хлапчына... Мая гаспадыня, Носава, кажа: „Ой, каб цябе Смактуніхі не зачаравалі, бо яны ўмеюць!". Я паехаў у Беласток. Знаёмы з-пад Ляўкова працаваў у „Кансумах" (гэта падлягала Унутранай бяспецы), ён мяне там зарэкамендаваў, і я ад верасня стаў там працаваць. Але ў Беластоку мне чагось бракавала. Мне страшна турбавала тое, што я школу кінуў, і стаў вучыцца ў эканамічным тэхнікуме. І яшчэ ў настаўніцкай студыі. Пасля вывучыўся на настаўніка кравецкай прафесіі. І дваццаць два гады быў настаўнікам прафесіі. А і цяпер працую. Не ўсяджу. Усё шукаю свайго. І ўвесь час трымаўся беларушчыны, бо зачах бы без роднага. І ўсе, хто яшчэ жывы, хто пры беларушчыне ў Беластоку круціўся, сустракаемся. І ўсе дарогі вядуць, так як і „вадзіла" па розных сядзібах — то на Варшаўскую, то туды дзе „Ніва" — цяпер на Заменгофа. І каля тых людзей — вось Сцяпан Копа зрабіў транскрыпцыю, зладзіў і апісаў на камп'ютары тыя песні з Цісоўкі, што я сабраў. Паслухайце, гэта маёй бабулі Саламеі: „Ходзіць бусял па балоці, галубка па хаці. Пытаецца сын мацеры: Якую мне ўзяці? Ой, ні бяры мой сынаньку, што ручанькі тлусты. Сам выбірай, людзей пытай: Ці памыя хусты? Ой, ні бяры, мой сынаньку, што толькі ў таночку. Сам выбірай, людзей пытай: Ці зробіць сарочку? Ох, добранач — усім на нач — усе людзі чуйця: Блізенькія — да доманьку, далекі — начуйця!" А каб даведацца, што ў нашых — было ці будзя — у „Ніве" прачытаем!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

**— Гэта ўшанаванне памяці аб колішніх стваральніках і жыхарах мястэчка, а таксама яе захаванне наступным пакаленням, — прадстаўляе выдавецкую навінку Барбара Нічыпарук, старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі.Тут пераказана штодзённае жыццё, больш і менш вядомыя падзеі ды месцы, якія змяніліся на працягу гадоў.**

# ГІСТОРЫЯ НА ЗДЫМКАХ

На вокладцы альбома ў амаль 250 старонак змешчаны чорна-белыя здымкі звычайных, занятых фізічнай працай жыхароў міжваеннага Гарадка. Унутры віднее нешта накшталталоўкам разрысаванай карты. Яе цэнтр гэта вуліца Берка Ёсялевіча. З левага боку той жа вуліцы пазначана пякарня і крама Зейдэля і Рыўкі, далей крама Шымеля, побач хата жыдоўскай сям'і Качапаяў. Направа размешчана двухпавярховая камяніца Сруэля і домік, у якім выраблялі панчохі. На выяве таго ж доміка перакрэслены надпіс „шавец". Ці гаспадарыў тут шавец, ці нехта іншы, успомніць ужо цяжка.



Дарота Сульжык, пры мікрафоне – Альжбета Грэсь

— Успаміны гэта адзіны рэсурс, з якога можам даведацца пра гісторыю нашага мястэчка, — прызнаецца Альжбета Грэсь, галоўная рэдактарка другога, папоўненага выдання альбома „Гарадок на старой фатаграфіі".

Ахвотныя купіць кніжку ці пагутарыць з яе аўтаркай прыбылі 6 снежня ў Гарадоцкі цэнтр культуры. Зацікаўленне тэмай з боку мясцовых аказалася дастаткова вялікім. Большасць сабраных ужо раней змагла асабіста сустрэцца са стваральніцай альбома пры нагодзе ўдзелу ў праводжаных ёю даследаваннях. Сярод гасцей вечарыны былі, між іншым, мясцовыя ўлады, прадстаўнікі асветы, культуры і надлясніцтва. Згаданай публікацыі чакалі яны з асаблівым нецярпеннем, беручы пад увагу, між іншым, доўгі працэс яе паўставання.

Усё пачалося з пошукаў архіўных дакументаў на патрэбы школьнай выстаўкі, сарганізаванай у 2005 г. па ініцыятыве Альжбеты Грэсь. Старых сямейных здымкаў паяўлялася штораз больш. Сабранага матэрыялу хапала на надрукаванне першага, храналагічнага, візуальнага пераказу амаль стогадовай гісторыі Гарадка. Пасля трох гадоў паявіўся ён у папоўненым выданні.

Як выглядала праца над альбомам і што дакладна ў ім змешчана? — з такім пытаннем публічна звярнулася да ініцыяткі выдання Альжбеты Грэсь мясцовая журналістка Дарота Сульжык.

— Пасля нашага першага выпуску людзі сталі яшчэ больш ахвотна дзяліцца сваімі сямейнымі архівамі. Але бывала па-рознаму. Аднойчы са спадарыняй Матысюк завандравалі мы да гандляра не надта ахвотнага ўвайсці ў якое-небудзь з намі супрацоўніцтва. Мы яму ўсё патлумачылі, нават свае асабістыя дакументы сталі прад'яўляць. У канцы абяцаў падзяліцца здымкамі, але запатрабаваў прывесці да сябе нейкага Станіслава Шэмёта, які змог бы даказаць што мы — гэта мы.

Альбом пачынаецца з калекцыі здымкаў, паўсталых да 1944 г. Апрача аднаразовых публікацый у мясцовай і беластоцкай прэсе гэта іх першы, супольны выпуск. Яны, мабыць, найбольш каштоўныя. Калісь здымаліся тут шмат у мясцовага даваеннага цырульніка і фатографа Йосіфа Абраміцкага.




— На жаль, па розных прычынах у сямейных альбомах здымкаў яго аўтарства засталося няшмат, — гаворыць спадарыня Альжбета.

Так як амаль нічога не засталося ад немалой даваеннай яўрэйскай супольнасці Гарадка. Але тое, што захавалася, уражвае асаблівa. На 27 старонцы згаданай публікацыі віднее партрэт надта прыгожай маладой пары. Ён падпісаны: „Люба Янушкевіч і Мотэль Морэйн, нягледзячы на зменлівасці лёсу, пажаніліся. Забітыя ў час нямецкай акупацыі". Іх вочы здраджваюць сум, быццам прадбачваюць хуткі, жахлівы канец.

Мабыць не да спадобы, асаблівa жыхарам паўночных і заходніх частак нашага ваяводства, будзе раздзел альбома, прысвечаны камуністычнай гісторыі Гарадка.

— Гэтае месца заўсёды славілася буйным рабочым рухам, — кажа Альжбета Грэсь. — Ладзілі тут шмат пратэстаў яшчэ напрыканцы XIX і напачатку XX стагоддзяў. Увогуле штуршком для пошукаў, выходзячых за рамкі школьнай тэмы, быў для мяне здымак рабочай маніфестацыі ў правабочнай часткі Гарадка. На ім паказана вялікая колькасць людзей на фоне, між іншым, аптэкі Шульскляпэра, крамы Шустэра, фабрыкі і банка.

Цікавай дэталлю ў паказанай на здымках гісторыі Гарадка з'яўляецца таксама даўно ўжо забытая Руда — колішні курорт і месца адпачынку шматлікіх мясцовых і прыезджых.

— Найбольш праблем у працы над публікацыяй выклікалі подпісы пад здымкі, — прызнаецца спадарыня Альжбета. — Яны атрымаліся агульнымі, часам надта сціплымі, беручы пад увагу адсутнасць якіх-небудзь архіўных дакументаў і невялікую колькасць людзей, памятаючых той час.

Справу далейшага пашырэння здымачнай калекцыі галоўная рэдактар пакідае адкрытай. У гэты раз прапануе выйсці насустрач грамадству, пражываючаму ў вёсках Гарадоцкай гміны.

Быў час і на словы падзякі. Старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі Барбара Нічыпарук накіравала іх у адрас найбольш актыўных яго членаў, стваральнікаў альбома. У іх ліку апынуліся Яраслаў Грэсь, Ян Багдан Бочка, Вячаслаў Паплаўскі, Вера Тарасэвіч і Ірына Матысюк. Паводле слоў Юркі Хмялеўскага, дырэктара Гарадоцкага цэнтра культуры, акцыі па зберажэнні мясцовай культурнай спадчыны гэта ініцыятывы менавіта Таварыства, якое налічвае 80 членаў.

Фінансавую падтрымку публікацыі аказалі Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Управа Гарадоцкай гміны, Кааператыўны банк у Беластоку, Надлясніцтва Валілы, а таксама Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку.

Удзельнікам гарадоцкай вечарыны быў падрыхтаваны таксама мультымедыйны паказ пад загалоўкам „Нашыя радаслоўныя". Яе аўтар, Аляксандр Кандрусік, эканаміст на пенсіі, з'яўляецца фанатам гісторыі ўласнай сям'і. Найстарэйшыя, знойдзеныя ім заметкі пра гарадоцкіх Кандрусікаў паходзяць з 1677 г. Канца пошукаў, як сам прызнаецца, не відаць. З прысутнымі падзяліўся ён цікавымі аповедамі, здымкамі і архіўнымі дакументамі, у тым ліку картамі і інвентарным спісам мястэчка з 1815 г.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Пад ясеня кронай

*Аліне Ваўранюк*

У Белавежскай пушчы,
Святыні Падляшша,
Ад лясное гушчы
Ўвысь імкнецца ясень.

Глыбінныя карэнні
Абдымаюць глебу,
А дробныя лісценні
Цалуюць просінь неба.

Сімвалічнае дрэва,
Arbor mundi таксама,
Праводзяцца засевы
Крылатымі пладамі.

А пад ягонай кронай,
У ясеня ценю,
Знаходзяць аўтахтоны
Моц, аздараўленне.

Струменіцца з карэнняў
Мудрасці крыніца
І многім пакаленням
Веліч ясеня сніцца.

Мроіцца ляшчыне
Ўздым такі высокі,
Каб магла вяршыняй
Лунаць у аблоках.

*Віктар Швед, Беласток,*
*29 лістапада 2014 г.*

## Памяці Яўгеніі Янішчыц

*Смерці ў Паэта няма —*
*Ёсць нараджэнне!*
Яўгенія Янішчыц

Ведала аб тым Жэня
З сямейкі Янішчыц,
Што яе дасягненяў
Аніхто не знішчыць.

Без веры ў смерці джала
У творчым асяроддзі,
Яна падсумавала
Сваё саракагоддзе.

І пакідаючы свет хворы,
Дзесь на Шляху Млечным,
Ведала, што ў сваіх творах
Яна жыць будзе вечна!

## Хаджу аж да стомы

У маім родным Моры
Без працы быў я хворы.
Хадзіў я за каровай,
І да школы вясковай.

Ну а крыху потым —
Да цяжкай работы.
З вялікай натугай
Хадзіў я за плугам

І на луг з касою
Летняю парою,
А з сярпом зублёным
Хадзіў на загоны.

Была ў руках крэпа:
Малаціць каб цэпам
І круціць каб жорны
На ржаны хлеб чорны.

Жыву ў Беластоку
У велізарным блоку.
Да кватэры Шведаў
Штодзень ліфтам еду.

У горадзе гулкім
Хаджу на прагулкі,
Ужо як старэча
Каб цела палечыць.

*Віктар Швед*



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Сяброўскі гурток беларускай мовы

— Мы сустракаемся ўжо чацвёрты год, раз у тыдзень, — кажа Ірэна Дударык. — Гэты час для нас каштоўны і прыемны. Дзеці ставяць важныя пытанні. Напрыклад, як адрэагаваць, калі пабачым агрэсіўны надпіс пра іншыя народы ці рэлігіі. Хочуць таксама ведаць адкуль узяліся беларусы на Беласточчыне...

Сустракаемся ў Пачатковай школе № 19 імя Мешка I у Беластоку. Спадарыня Ірэна — школьная бібліятэкарка, таму і заняткі адбываюцца ва ўтульнай залцы сярод кніжак.

Тут ужо чакае нас верная тройца пяцікласнікаў: Амелька, Юліта і Ігар. Усе яны маюць бабуль і сваякоў на Заблудаўшчыне, таму спачатку ўспамінаем славутых друкароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, якія ў XVI стагоддзі друкавалі кніжкі на старабеларускай мове ў Заблудаве. Паміж расказам Амелька Папко прызнаецца:



— Я хацела б размаўляць па-беларуску, як мая бабуля і мама.

Юліта Яканюк добра разумее сяброўку. Яна таксама хоча ў нечым прызнацца:

— Калі я паехала да сваякоў у Дадовічы, там усе размаўлялі па-свойму. Мне стала сорамна, што я адна не ведаю мовы. Ігар Пучынскі, каб даказаць, што не горшы, прадэкламаваў з памяці народны вершык: Ішоў кот цераз плот. Хлапчук пахваліўся, што слухае Радыё Рацыя.

— Мы таксама, — адазваліся хорыкам сяброўкі.

У час сустрэчы мы пазнаёміліся з артыкуламі і вершамі ў „Зорцы". Пяцікласнікам вельмі спадабаўся верш Караліны Каравай пад загалоўкам „Дзякую". Ён апавядаў пра сяброўства і вернасць. Якраз на сяброўстве трымаецца беларускі гурток у „дзевятнаццатцы".

Прыходзяць у школу на гадзіну раней, каб сустрэцца з паняй Ірэнай. Спадарыня Дударык — асоба незвычайная. Сама прыдумала заняткі і дабілася, каб адбываліся ў школьнай бібліятэцы. Іх праект трымаецца на энтузіязме. Ужо чацвёрты год пані Ірэна вядзе гурток на грамадскіх пачатках. Яна выпускніца Гайнаўскага беларускага ліцэя.

На заканчэнне нашай сардэчнай сустрэчы ўсе заспявалі беларускую калядку „Учора з вячора".

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

# ДВУХ ПРЫЯЦЕЛЯЎ

*(таджыкская казка)*

Ахмед і Рахмат гаварылі, што яны вялікія сябры. Аднойчы прыехалі яны ў горад да знаёмага. Сядзелі, размаўлялі. Адзін з іх — Ахмед — выйшаў з хаты. Тады Рахмат сказаў:

— Мой прыяцель дурны чалавек. Ён горшы чым аблезлы сабака.

Вярнуўся Ахмед і зноў яны спакойна размаўлялі з гаспадаром. Пасля выйшаў з хаты Рахмат. Тады Ахмед сказаў:

— Гэты мой прыяцель — не мужык, а пярэстая карова.

Вельмі здзівіўся гаспадар, аднак нічога не сказаў. Пайшоў ён на двор і прынёс дзве міскі. У адной было сена, у другой — косці. Гаспадар паставіў пасудзіны перад гасцямі.

— Што гэта ўсё значыць? — здзівіліся „прыяцелі".

— Даражэнькія госцікі, — адказаў гаспадар, — калі адзін з вас пайшоў на двор, другі сказаў у яго адрас: „Мой сябра горш сабакі". Калі выйшаў другі, то першы так пра яго адазваўся: „Мой сябра не мужык а пярэстая карова". Я ведаю, што карова любіць сена, а сабака абажае косці. Я хачу пачаставаць вас такой ядой, якая для вас найсмачнейшая ў свеце.

*(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)*

# Адкуль бяруцца фарбы

Цяпер хутчэй за ўсё думаем пра ёлку, чым пра вясёлку. Але паслухайце...



Мой амаль чатырохгадовы сыночак вельмі любіць рысаваць і маляваць. Ахвотна размалёўвае пастэльнымі алоўкамі. Але найбольш яму падабаецца маляваць фарбамі. Мае сваю скрыначку з фарбамі з абразкамі Віня-Пыха. Хлопец найбольш любіць маляваць цягнікі, перш за ўсё сіні лакаматыў Тамаша з жоўтай адзінкай. Дык нядаўна прыбягае да мяне і засмучаны кажа:

— Мама, мне не хапае фарбаў...

— А якога колеру?

— Няма ўжо сіняй...

— Не хвалюйся. Купім новую.

І Давід пабег да сваіх заняткаў. Дык па нейкім часе прыбягае з рысункам з вясёлкай.

— Вясёлка дае фарбы, праўда мама? Яна напаўняе пустыя слоічкі фарбамі.

— Праўда...

Якая ж дзіцячая фантазія цудоўная ды неабмежаваная...

Тэкст: Эва ВАШЧЫНСКАЯ
Рысунак: Давід Вашчынскі



# Віктар Швед у маёй школе!

У 2015 годзе будзем адзначаць важныя юбілеі і гадавіны: 90-годдзе Віктара Шведа і 20-годдзе Сустрэч „Зоркі".

З гэтай нагоды аб'яўляем конкурс для малых, дарослых і пажылых чытачоў „Зоркі". Вашай задачай будзе напісаць успаміны пра аўтарскую сустрэчу з Віктарам Шведам у сваёй школе. Мы спадзяемся, што Вашыя ўспаміны папоўняць незвычайны партрэт паэта-юбіляра. Віктар Швед — жывая гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя на Беласточчыне. З „Нівай" сябруе з 1956 года, дзе надрукаваў блізка тры тысячы вершаў. Няма больш у нас такіх рэкардсменаў! Падобнае можна сказаць і пра аўтарскія сустрэчы, а ў паэта іх за тысячу. Яны жывуць у памяці многіх беларусаў і чакаюць свайго запісу. Магчыма, што ў сямейных архівах захаваліся здымкі або аўтографы кніжак? Калі ласка, дашліце разам з успамінамі.

Кожны, хто прыме ўдзел у конкурсе і падзеліцца сваім расказам, асабіста павіншуе юбіляра і падзякуе паэту за яго талент, працавітасць і вернасць. Калі ў нас атрымаецца сэнсоўная падборка, успаміны надрукуем асобнай кніжкай, а аўтары самых цікавых допісаў атрымаюць каштоўныя ўзнагароды.

Допісы можна дасылаць ужо з 1студзеня 2015 года.

ЗОРКА

# Падрыхтоўка да Раждзяства Хрыстовага ў маёй хаце



Эліза Матус і Аляксандра Яроцкая, нашыя гарадоцкія карэспандэнткі :-)

Калі надыходзіць свята, я не магу яго дачакацца. У нас гэта час вясёлы, чароўны і вельмі люблю сямейную атмасферу, якой прасякае тады ўся хата.

У час падрыхтоўкі ва ўсёй хаце чуваць шум і гамонку. У Вілею не хапае часу, каб падрыхтаваць усё як належыцца. Бацька едзе ў лес па елку, якая заўсёды вялікая ад падлогі па столь. Мы яе аздабляем цацкамі і каляровымі лямпачкамі, зіхацяць вясёла ў найбольшым пакоі ў хаце. А пах, які разносіцца навокал, жывіца і лес — назаўсёды застанецца сімвалам святаў. Аздобы рыхтую я ў ужо з позняй восені — у свабодныя хвіліны рыхтую доўгія ланцужкі. Завязваю салому, каляровую паперу, а таксама ніткі.

Маці і бацька займаюцца стравамі, я ім памагаю, вучуся варыць стравы па-даўняму, як прабабулі. На стале абавязкова мусіць быць куцця з арэхамі, разынкамі, макам і мёдам, смажаная рыба, пірагі з капустай і грыбамі, боршч з грыбамі і кампот з сушанай садавіны. Грыбы мы збіралі ўсёй сям'ёй, баравікі сушылі ў бабінай духоўцы, і на каляду маем што выкарыстаць. Дадаткова пячэм смачныя пернікі, якіх пах вабіць усіх у кухню. Калі хтось з'есць замнога, а часта так бывае, баліць яму жывот!

Калі ўзыходзіць першая зорка, наша сям'я пачынае вячэраць. Сядаем за стол, які накрыты белым абрусам, пад які бабуля кладзе сена — яно напамінае аб традыцыі. Бабуля расказвае, што калі маленькі Ісус Хрыстос ляжаў на сене, так і мы спажываем стравы на сене. Даўней, за яе маладосці, кажа бабуля, дзяўчаты пасля вячэры выцягвалі з-пад абруса травінкі. Якая выцягнула найдаўжэйшую, тая першая замуж пайшла. Я не спадзяюся хутка мужа шукаць, мне трэба вучыцца і свет пазнаваць. Прадаўжаючы даўнейшую традыцыю. Ёлкі ў іх не было, ставілі ў кутку сноп збожжа. А на стале абавязкова быў аўсяны кісель. Нязменнай ёсць прасфора прынесеная рана з царквы бабуляй.

Усё, здаецца, такое ўрачыстае. Неабходным пунктам вечара пасля Вілеі ёсць співанне калядак. А калі я была маленькая, прыходзіў Дзед Мароз, і я раз пазнала дзядзьку па дзірцы ў шкарпэтцы — усе смяяліся. Цяпер падарункі знаходзім пад ёлкай. Уначы ўсёй сям'ёй ідзем у царкву. Снег скрыпіць пад нагамі, што наладжвае непаўторную атмасферу. На панадворках, у вокнах зіхацяць каляровыя лямпачкі ёлак. Весялосць і сямейная атмасфера надзяляецца ўсім.

У першы дзень святаў, пасля абеду і службы ў царкве, я з сяброўкамі ідзем калядаваць. Зорка, якую падрыхтаваў бацька, такая вялікая, што часам не змяшчаецца ў дзвярах! Людзі цешацца, калі мы прыходзім, асабліва старэйшыя. Думаю, што яны крыху самотныя і мы іх развесяляем. Працягваем традыцыю калядавання і прыпамінаем людзям, што святы — час вясёлы, а ў сённяшнім жыцці весялосці крыху мала.

Раждзяство Хрыстова азначае новае жыццё. Кожны чалавек павінен праводзіць святы з сям'ёй, таму я, думаю што не толькі я, так іх чакаю. У будучыні я хацела б, каб у маёй хаце святы былі таксама традыцыйныя і магічныя.

**Аляксандра ЯРОЦКАЯ, Гарадок**

## Загадкі з роднай хаткі

## Увага, конкурс!!! (№ 51-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 4 студзеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Ходзяць каля рэчкі**
**Шэрыя авечкі.**
**Белыя авечкі**
**Паплылі над рэчкай.**
**Шэрых пасвіць Петрык,**
**Белых гоніць ветрык**
**А.....**

**(Н. А. Сторажава)**

**2.**

**На зямлі я не хаджу**
**І на неба не гляджу.**
**Вочы маю — не міргаю,**
**Маю рот — не гавару,**
**Ёсць і хвост, але не звер я**
**І не птах, хоць ёсць і пер'е?**
**Хаты з роду не будую**
**Ды ні трохі не сумую.**
**Р...**

**(Н. Гілевіч)**

**Адказ на загадкі № 46-14: рысь, бурак, сноп. Узнагароды, дыскі з беларускай музыкай, выйгралі Іга Макац, Паўлік Сапёлка з КШ № 3 у Гайнаўцы, Караліна Порац і Клаўдзія Нікančук з Нарвы. Віншуем!**

# Вершы Віктара Шведа

## Словы аб снезе

Спыталася сяброўка Зося
Кіроўцу фірма Мікалая:
— Ці ведаеш, што эскімосы
Звыш сотні слоў
аб снезе маюць?

— Я, Зося, ведаю іх болей
І паўтараю іх няспынна,
Калі са злосцю, паняволі
Адснежваю аўтамашыну.

## Бруднае дзіцятка

Прыйшла да лекара матка.
— Бруднае ваша дзіцятка.
— А я яго мыю штодзень,
Не толькі пры нагодзе.

Лекар макнуў у спірце ватку
І пацёр шыйку дзіцятку.
— А мне ў хімічны спосаб
Дзіця чысціць не даваўся.

## Ад'язджае бабуля

Пытае маму Ганулька:
— Ці ад'язджае бабулька?
— Так, дарагая, доня,
Яна ад'язджае сёння.

— А матка наш учора
Быў у дрэнным гуморы
І сказаў з нейкім болем:
— Яна не ад'едзе ніколі.

## Рэўматызм

Дзедка-жартаўнік пытае:
— Адгадай мілы ўнучак,
Што ў левай руцэ маю?
— Мо ледзянец пахучы?

А можа гэта арэшак,
Ці палявая кветка?
— Не магу цябе пацешыць:
Рэўматызм маю, дзетка.

# № 51

# Польска-беларуская крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Trzcina / Rocznik | | Dar | | Przewodnik / Ukrop | | Jak | | | Spodnie | Bok / Tona | |
| | | | | | | | Car | Co? | | | |
| Para podwójna liczba | | Rząd / Tygrys | | | | | | Klepisko / Dotyk | | | |
| | | | Praga | | Mirra / Książka | | | | | | |
| Typ, | | | | Korona | | | | | | | Gałązka |
| Korale | Grand | | | | | | | | | No | |
| | | | | | | | | | Nie / Rodzaj | | |
| Orzeł | | Ładny | | | | | Amor | | | | |
| | | | | Halo! | | | | | | | |
| Toga | | | | Odgad-nięcie | | | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 47:

Зіма, парог, прас, біс, Баку, рэ, ах, па шчырасці, шчасце, Ас, ар, арак. Забава, ах, пушча, чар, нарыс, сэрца, ар, аер, рэбус, цок, гуслі.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Вікторыя Паеўская, Наталля Марчук** з Бельска-Падляшскага, **Карнелія Порац, Тымэк Петручук, Наталля Пашкоўская** з Нарвы, **Клаўдзія Сікорская, Эмілька Казлоўская** з Міхалова, **Іаанна Рута, Дам'ян Іванюк, Тамаш Галёнка** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Патрыцыя Лаўнічук** з Нараўкі. Віншуем!

# Прызыванне заблудаўскага цуду

**За невялікім ляском, пасярэдзіне поля, зараз за табліцай, якая інфармуе аб мяжы Заблудува, ад паўднёвага баку стаіць каплічка Божай Маці. Акаляюць яе папскія і бела-чырвоныя сцягі. Нават цяпер, у марозным снежні, можна ўбачыць, што хтосьці прыносіць свежыя кветкі і ставіць свечкі. У гэтым месцы ў сярэдзіне сонечнага мая 1965 года першы раз чатырнаццацігадовай Ядвізе Якубоўскай з'явілася Божая Маці. Вестка пра заблудаўскі цуд хутка распаўсюдзілася не толькі па ваколіцы, але па ўсёй краіне, у тым ліку праз радыё «Свабодная Еўропа». Сталі сюды з'яўляцца натоўпы вернікаў. З'явіліся каталіцкі і праваслаўны крыжы. Польская аб'яднаная рабочая партыя і Служба бяспекі не маглі змірыцца з гэтай сітуацыяй. Каталіцкі касцёл не прызнаў адкрыцця як цуду, а Праваслаўная царква паставілася да яго як да «не свайго».**





Пётр Нестаровіч побач месца цуду

Кнігу «Cudowna» пра гэтыя падзеі і эмоцыі, якія суправаджалі іх, напісаў Пётр Нестаровіч. Яе прасоўванне 7 снежня да краёў запоўніла залу Гарадскога цэнтра анімацыі культуры ў Заблудаве. Бацька аўтара гэтага збору рэпартажаў — на аснове ўспамінаў і архіўных дакументаў — выхадзец з Орлі, сваяк вядомых беларускіх кінематаграфістаў Мікалая і Пятра Нестаровічаў. Сам аўтар, аднак, нарадзіўся ў 1971 годзе ў горадзе Аполе, а зараз жыве ў Варшаве. Быў дырэктарам і членам управы тэлекамунікацыйных кампаній, а таксама скончыў арганізацыю і кіраванне ў Эканамічным універсітэце ў Вроцлаве. Сярод чытачоў праславіўся ў мінулым годзе фантастычным раманам «Piasek», а год раней — зборнікам рэпартажаў «Апошнія абаронцы веры» аб падляшуках, польскіх стараверах ды полікультурнай і шматканфесійнай мазаіцы паўночна-ўсходняй Польшчы.

### МЕХАНІЗМ ЭМОЦЫЙ

Перад пачаткам сустрэчы аўтара кнігі сустрэлі мы на асфальтавай дарозе зараз за Заблудавам, на працягу вуліцы святога Роха, пры якой калісь жыла сям'я Ядвігі Якубоўскай, побач абгароджанага дротам поля, на якім адбыўся пры ўсходзе яркага сонца цуд:

— На пачатку ён быў і каталіцкі, і праваслаўны. Паяўляліся на гэтым полі таксама і праваслаўныя. Былі пастаўлены і праваслаўныя крыжы, але зніклі пасля некаторага часу, і знайшлі іх пад мурам заблудаўскай царквы. З часам цуд стаў больш каталіцкім. Праваслаўныя жыхары, можа, мелі да яго большую памяркоўнасць. Большасць паломнікаў была католікамі. Ёсць урыўкі ў маёй кнізе, калі апісваю як паломнікі з захаду Польшчы здзіўляліся, што стаяць тут крыжы з кірыліцкімі надпісамі і нават задаваліся пытаннем, ці явілася праваслаўная, ці каталіцкая Божая Маці. Аднак па гэтай прычыне не ўспыхнула нейкая большая варожасць паміж двума веравызнаннямі. Калі я гаварыў з мясцовымі жыхарамі Заблудава, шмат хто казаў, што праваслаўныя маюць тут свайго святога — Гаўрыіла з суседняй вёскі, са Звяркоў, дык нашто ім чарговы. Калі б быў канфлікт, дык хутчэй у сувязі з чалавечай зайздрасцю, паклёпамі, плёткамі, абвінавачаннямі адзін аднаго, такім чынам з-за таго, хто ўзяў больш грошай ад ахвяраванняў пакінутых на месцы адкрыцця, абвінавачаннем сям'і Ядвігі, што выдумала ўсё гэта, каб разбагацець. Перш за ўсё, было шмат ажыятажу вакол таго, хто верыць, а хто не ў цуд. Тых, што верылі, некаторыя лічылі набожнымі, іншыя разглядалі іх як фанатыкаў. Тых, што не верылі, некаторыя лічылі рацыяналістамі, іншыя — бязбожнікамі. Гэта вяло да зайздроснасці, якая цягнулася доўга. Цяпер пра адкрыццё нават некаторыя забыліся, але частка тадышніх эмоцый захавалася да нашых дзён.

У цэнтры анімацыі культуры прызнаўся:

— Спачатку я думаў, што гэта будзе аповед пра гісторыю, пасля, што пра польскую рэлігійнасць, аб гарачай празе цудоўных падзей і веры з аднаго боку, а з другога — аб фанатычным падыходзе да іх. Збіраючы матэрыялы для кнігі, я прыйшоў да высновы, што гаворка пойдзе пра эмоцыі, нават негатыўныя, якія жывуць да сёння і сёння маглі б паўстаць. Механізмы гэтых эмоцый з'яўляюцца ўніверсальнымі і па-ранейшаму такія ж самыя. Так як і тады, незалежна ці хто верыў у цуд, ці не верыў, выклікаў эмоцыі, палярызаваў іх. Дастаткова было таго, што хтосьці назваў некага бязбожнікам, а нехта каго-іншага — фанатыкам, і ўжо была эмоцыя, якая часта заставалася надоўга.

### ТЫСЯЧЫ НА ПОЛІ АДКРЫЦЦЯ

З успамінаў і архіўных матэрыялаў, сабраных у кнізе, але да гэтага, сярод іншага, абнародаваных Кшыштафам Сыховічам з беластоцкага філіяла Інстытута нацыянальнай памяці вынікае, што ў сярэдзіне мая 1965 года 14-гадовая Ядвіга Якубоўская ўбачыла Дзеву Марыю на фоне сонца, калі прыйшла на луг пасвіць кароў. Дзяўчынка аб здарэнні распавяла сваёй маці, а тая — пробашчу. На працягу наступных двух тыдняў Марыя з'явілася ёй яшчэ чатыры разы. Праз падзаблудаўскае поле праходзілі тысячы людзей. Побач месца цуду паркавалі вазы, трактары, аўтамабілі, матацыклы.

Пётр Нестаровіч:

— Пад домам Ядвігі стаялі кожны дзень сотні людзей у надзеі ўбачыць яе, пакратаць, атрымаць добраславенне. Гэтая інтэнсіўная рэлігійная эмоцыя працягвалася некалькі месяцаў.

Камуністычныя ўлады адрэагавалі на гэтую падзею хутка. Газеты пачалі ганьбаваць Ядвігу і яе сям'ю. Абвінавачвалі яе, што становіцца падобнай на галоўную гераіню «Эн з Зялёных дахаў», якую несла фантазія. Падкрэслівалі небяспеку піцця бруднай вады з «цудоўнай крынічкі», якая з'явілася пасля таго, як людзі з падмоклай балотнай зямлі на месцы адкрыцця бралі па жменьцы зямлі і такім чынам зрабіўся дол, які натуральна напаўняўся вадой. Натоўпы людзей днямі стаялі бівакам пасярод заблудаўскага поля ў чаканні чарговага цуду. Улады правялі размовы з ксяндзом Янам Скаржынскім, пробашчам мясцовай парафіі, каб спыніць распаўсюд навін пра здарэнне. З міліцыйнай дакументацыі вынікае, што 30 траўня, пачынаючы з гадзіны 10.50, вакол месца цуду сталі збірацца людзі. Па закліку міліцыі разыходзіліся мірна. У 14.10, аднак, было тут каля ста чалавек і іх лік пастаянна павялічваўся. У 16.20 было іх амаль дзве тысячы. Тады напалі на функцыянераў ЗОМО і міліцыянтаў. З боку паўтысячнай групы пасыпаліся камяні, а атакаваныя прымянілі хімічныя сродкі і службовую зброю, аддаючы стрэлы ў паветра. Група ЗОМО адышла толькі ў 17.07. У апрацоўцы гісторыі парафіі ў Заблудаве ксёндз Адам Шот кажа: «Тых, хто хацеў умяшацца ў малітву, выкарыстаць «цуд» для ўласных палітычных мэт, адапхнулі. Атрады міліцыі, якія мелі быць выкарыстаны для сілавога разгону натоўпу, былі разагнаны масамі вернікаў». 2 чэрвеня 1965 г. у аддзеле па справах рэлігій правялі размову з біскупам Адамам Савіцкім. Ён выключыў існаванне «цуду» з багаслоўскага пункту гледжання і выказаў сваё разуменне мэтазгоднасці умяшанняў, прадпрынятых міліцыяй. Ён сказаў, аднак, што высылка міліцыі ў такую вялікую канцэнтрацыю людзей была памылкай. Намякнулі яму, каб епіскапская курыя і святары ў навакольных парафіях асудзілі «эксцэсы». Адмовіўся, абгрунтоўваючы тым, што ў такім выпадку справа набярэ яшчэ большай «галоснасці» і прынясе адваротны эфект ад жаданага з боку ўлад. 10 ліпеня 1965 г. знеслі пастаўленую папярэдняй ноччу каплічку ды ўсе крыжы і рэлігійныя эмблемы. Праца рабочых не сустрэлася з супрацівам з боку вернікаў. Санітарна-эпідэміялагічная станцыя правяла дэзінфекцыю месца і загадала зрабіць прышчэпкі мясцоваму насельніцтву і прыезджым. У пачатку 1966 г. СБ прааналізавала сітуацыю ў Заблудаве. Было ўстаноўлена, што ў снежні і лістападзе папярэдняга года некалькі раз былі спробы размясціць у месцы цуду крыжы і ўскладваць кветкі. Ядвіга Якубоўская, ад якой чакалася святасці, пайшла ў манастыр (раней хацела стаць кандытаркай). Людзі да сёння прыязджаюць у месца цуду, каб памаліцца, а ад некалькіх гадоў святар у маі служыць у заблудаўскім касцёле імшу да Заблудаўскай Божай Маці.

Пётр Нестаровіч:

— Касцёл апасаўся, што справа можа выйсці з-пад кантролю, таму што, вось, у нейкім мястэчку самі людзі кажуць, што ёсць адкрыццём, а што ім не з'яўляецца. З іншага боку, быў моцны ціск камуністычных улад, каб справу прыглушыць. Аднак асцерагаліся слоў асуджэння, таму што маглі яны прывесці да бунту ў парафіі, які хутка падхапіла б служба бяспекі і выкарыстала б супраць Касцёла. Наступіла такая заблытанасць, што самі святары не ведалі, што рабіць. Канчаткова перамагло жаданне асуджэння. Часам мусіць прайсці шмат часу, каб Касцёл інакш глянуў на нейкія падзеі.

### УСПЫШКІ ПАМЯЦІ

Не было на сустрэчы 7 снежня самой спадарыні Ядвігі, але прыйшло некалькі відавочцаў падзей 1965 года, якія ў той час былі дзецьмі. Кшыштафу Абуковічу было тады 10 гадоў:

— Я памятаю пэўныя вобразы: слёзатачывы газ, людзей перажываючых у малітве гэтую падзею, цяжкасці як адтуль дабрацца людзям у свае дамы, аўтамабілі міліцыі з бітым шклом, якія стаялі каля міліцыйнага ўчастка. Памятаю, як некалькі месяцаў людзі з Польшчы, якія прыязджалі ў Заблудаў, пыталіся пра начлег, а мой тата вазіў на возе некаторых паломнікаў у Беласток, таму што ўлады перашкаджалі ў публічным даездзе і выездзе з гэтага месца. Людзям надзялялася гэтая рэлігійнасць і аб'ядноўваліся супраць улады.

Адам Самсановіч, адзін з кіраўнікоў беластоцкай кнігарні «Акцэнт», быў на год старэйшым ад спадара Кшыштафа і назіраў падзеі 30 мая з-пад бліжэйшых будынкаў:

— Не, гэтая падзея не аб'ядноўвала, не замацоўвала мясцовага насельніцтва, але спрычынілася да палярызацыі. У Заблудаве тады адбыліся сур'ёзныя рознагалоссі, выкліканыя эмоцыямі. Вялікая група таксама не верыла ў тое, што здарылася. Ніхто не выступаў супраць улады. Калі б міліцыя тады не прыехала, усе б разышліся. Рэфлекс супраціву наступіў толькі тады, калі людзей хацелі пацыфікаваць. Таму былі спалены міліцыйныя аўтамабілі і разбіты вокны ў іх. Гэта не мае нічога агульнага з апазіцыяй да ўлады, там не было ніякіх апазіцыянераў. Былі людзі, якія хацелі перажыць адкрыццё, ці проста ў ім прысутнічаць.

Заблудаўская настаўніца Ганна Астаповіч:

— Для мяне Ядвіга была каляжанкай, я была ў яе ўзросце. Я сустракала яе ў касцёле, на працэсіях. У маіх вачах была яна

працяг ☞11

# Бежанства 2015 года

**Злажу з аўтобуса на прыпынку ў Астраўках. Першы кадр пабачанага там гарызонту ахоплівае некалі гаспадарскую сядзібу, ад якой зараз асталіся толькі старыя пачарнелыя яблыні на фоне пабялелых, зліваючыхся з сабою хмар і снегу. Такі пейзаж, узбагачаны халодным ветрам, не прадвяшчае аптымізму...**





Святліца ў Гаркавічах

З асфальтоўкі, якая перасякае ахутаную ў зіму вёску, кірыюся ў дарогу, што вядзе ў Піражкі. Неўзабаве паказваецца двухпавярховы будынак былой школы. Наваколле яго пазарастала пустазеллем. Частка шыб у вокнах выбіта, некаторыя створкі адкрытыя. Па пустой школе гуляе вецер. Ад дарогі школьны панадворак зарос слівамі. Не відаць слядоў ніякага руху вакол былой школы. На электраслупе нешта пакінута, быццам буслы былі думалі звіць там сабе гняздо. Побач школьнага будынка хата, нават даволі прыстойная, каля яе нейкі чалавечы след.

З Астраўкоў у Піражкі асфальтоўка, кругом палі засыпаны снегам. Мокры снег б'е па твары, холадна. Дарога расчышчана. Край дарогі старыя таполі, паміж імі высокае зелле, сям-там крыху малінавых сцёблаў. Асфальт дзе-нідзе выглядае як польбрук, але трымаецца, яшчэ можна па ім выгадна ездзіць.

Перад самімі Піражкамі пры самой шашы сцяна густых маладых таполяў, быццам акаймленне дарогі, быццам такая гнуткая драўнінная падушка на выпадак нейкай аўтамабільнай аварыі. Перад Піражкамі асфальт канчаецца, за ім адрэзак жвіроўкі. Да хат, што ў пачатку вёскі, слядоў мала, да некаторых няма і зусім, значыць яны пустуюць. На плоце перад адной з іх банэр, апавяшчаючы Падляшскі шлях нерухомасцей; вельмі трапная назва, улічваючы нерухомае праміnанне мясцовага будаўніцтва на Усходняй сцяне. Калі ўжо названы іншыя падляшскія шляхі — буслiны, татарскі, кулінарны, культурны, сакральнага будаўніцтва, праваслаўных храмаў, марыйны, народнага рукадзелля ці адкрытых аканіц — гэты таксама на свой лад узбагачае ландшафт Беласточчыны. Даносіцца пах свінскага гною, значыць у Піражках працуе свінаферма. Паказваецца хата заваленая ўсялякім ламаччам, зарослая ўсялякім гушчаром. Ёсць крыху абноўленых хат, але не да ўсіх іх ёсць чалавечыя сляды, да мала якіх сляды машыны. Дзе-нідзе прасунуты сцежкі ў снезе.

На канцы вёскі пейзаж быццам з іншай планеты. Стаіць там дарожны паказальнік, які інфармуе, куды напраўлены дарогі, на якіх следу або зусім няма, або той след вельмі кволы; у Крынкі — чатыры кіламетры, у Юраўляны тры і ў Сукавічы тры. Няма затое паказальніка па часта езджанай дарозе ў Гаркавічы; магчыма, яго адсутнасць прарочая. Дарога ў напрамку Сукавіч вытрасіравана, але нейкага антрапагеннага насцілу на ёй не відаць. У напрамку Юраўлян ёсць жвіроўка, але яна раз'езджана трактарамі і поўна на ёй калюжын. Побач гэтых расходных дарог пакінутая хата, без коміна, вокны на розных стадыях раскладу, дзверы насцеж. Побач разгалінавання дарог праваслаўны крыж з 1920 года, каля яго пластмасавыя кветачкі. На дарозе, што з напрамку Крынак, паказваецца легкавушка, якая, не даязджаючы да скрыжавання, накіроўваецца ў нейкую вулачку ў вёску — след у Крынкі пракладзены. Іншы панадворак, што пры дарозе ў Гаркавічы, зарослы слівамі, недалёка падмурак таксама зарослы прыродай. Аглядаючыся назад, на Піражкі, па вельмі агульным рахунку здаецца, што ў вёсцы палова хат, а ўсе яны традыцыйнага мясцовага дызайну, пустуе, а палова з другой паловы яшчэ дыхае, але квола. А недзе каля чвэрці хат задбаная, шаляваная.

З правага боку жвіроўкі, што ў Гаркавічы, аблесены ўзгорак. З гэтага ляску выбегла адзінаццаць казуляў, прабегліся па полі і схаваліся назад у лес. Жвіроўка з Піражкоў у Гаркавічы, прачышчаная ад снегу, відаць сляды машын. Калі на гарызонце паказваюцца Гаркавічы, упоперак дарогі паказваюцца сляды буйных капыт, мабыць гэта сляды нейкага адзінокага зубра.

У Гаркавічах першымі паказваюцца стадолы і бетонныя слупы, на якіх стаялі іншыя стадолы. Некаторыя гаркавіцкія стадолы ўжо абрастаюць дрэвамі — бярозамі і таполямі. Платоў нямнога, а і тыя, што асталіся, пахіліся ўжо да зямелькі. Стадола, што пры дарозе з Піражкоў, даволі ўжо арыгінальная: у ёй выразаны дылі амаль поўнасцю, адно вуглы пакінуты і на тых вуглах стадола стаіць быццам на слупах. І дзверы асталіся, і дах шыферны, але як ён на такой канструкцыі трымаецца — гэта своеасаблівы цуд...

Даходжу да гаркавіцкай вуліцы, брукавы насціл яе расчышчаны. Хата, за якой стаіць згаданая стадола здаецца быць незаселенай — няма каля яе ніякіх слядоў. Суседняя хата таксама выглядае пустой, з коміна процілеглай яшчэ ідзе дымок. Насупраць дарогі, што ў Піражкі, аўтобусны прыпынак — бетонны тонкі слуп з заржавелай таблічкай, на якую наклеены расклад аўтобусаў, важны з 1 верасня бягучага года, які інфармуе, што ў Шудзялава ад'язджаюць з Піражкоў два аўтобусы: адзін рана, а другі пасля поўдня. Суседнія з прыпынкам тры хаты з камінамі прыкрытымі снегам — значыць яны пустыя. Далей толькі падмурак, а ўчастак вакол яго аброс усялякай маладой драўнінай. Чарговы будынак з прыгожымі надаконнікамі, але, на жаль, ён таксама пусты, каля яго рэшткі плота. Насупраць гэтай хаты таксама панадворак зарослы. Далей абноўлены на сучасны лад будынак былой гаркавіцкай чатырохгодкі, абсаджаны туямі, які ў час паляванняў прымае паляўнічых. Да суседняй хаты ёсць след.

Насупраць былой школы былая гаркавіцкая святліца. Вось што пра яе пісала „Ніва" ў 1970 годзе: „Маем святліцу, але ў святліцы нічога. Няма ў ёй тэлевізара, няма святліцовага, дык няма чаго туды заходзіць. Няма ў Гаркавічах ніколі аніякіх мерапрыемстваў, калі не лічыць фэстыну БГКТ, арганізаванага Беларускім таварыствам... А што на гэта кажуць у Саколцы? — Ведаем, што Гаркавічы рэвалюцыйнай былі вёскаю ў мінулым. Але цяпер аніякай ініцыятывы няма ў Гаркавічах. Уладзіць справу святліцы пад сілу вёсцы. Але не толькі „дай" павінна чуцца ў Гаркавічах...". Два гады пазней „Ніва" пісала: „Была сонечная нядзеля 23 ліпеня 1972 года. У Гаркавічах на Сакольшчыне шматлюдны натоўп сабраўся ля свежапамаляванай і адрамантаванай вясковай хаты, якая ад гэтага дня сталася месцам культурнага адпачынку жыхароў вёскі і адначасова Ізбай памяці аб іх аднавяскоўцу Сяргею Прытыцкім". У 2006 годзе за гэтую святліцу ўзяўся і я: „Са звязкі ключоў ад культурнай установы солтысу не ўдаецца знайсці таго, які адкрыў бы святлічныя дзверы; удаецца гэта мне. Але ўжо дзвярэй у залу памяці слаўнага рэвалюцыянера не ўдаецца нам адамкнуць. Але даведваюся, што нічога асаблівага ў зале памяці няма: асталося толькі некалькі здымкаў...".

Зараз на будынку былой святліцы моцна заржавелая шыльдачка, на якой яшчэ ўдаецца прачытаць, што быў там бібліятэчны пункт. Вакол будынка захавалася некалькі жалезных слупоў ад колішняй агароджы, а пакамячаныя рэшткі сеткі агароджы ляжаць у куточку побач ганка.

Па суседску з былой святліцай хата з солтысавай шыльдай, але нейкага буйнейшага гаспадарання там не відаць, адно сабака з таго панадворка доўга суправаджае мяне брэхам, апавяшчаючы на ўсю вёску пра з'яўленне чужой асобы. Насупраць чарговая неабжытая хата. Чарговы панадворак з голымі слупамі ад нейкай былой стадолы, рэшткі плота і княжанне прыроды на панадворку. Чарговы панадворак таксама зарастае. Да суседняй хаты таксама следу няма, плот павалены, далей, пад павеццю крыху назапашаных калісь дроў. Чарговы ўчастак са старымі яблынямі толькі. Далей хата прыгожа абгароджаная, да якой адзінокі след; магчыма, што нейкі вясковец туды раз на нейкі час заглядае. А далей склепы, а за імі слупы колішніх гаспадарчых збудаванняў. З другога боку кавалкі паваленага плота. Чарговая хата таксама неабжытая. Крыху далей бачу на панадворку машыну з беластоцкай рэгістрацыяй, у панадворку невялікая цяплічка. А на далейшым панадворку нават куры паказваюцца. Далей хата накрытая новым дахам, каля яе таксама след ёсць. У канцы вёскі, што з боку Бабік, абноўленая хата з новымі вокнамі, але яны зацягнуты. Далей канчаецца брук, пачынаецца жвіровачка, пры ёй дарожны знак канца вёскі. Побач памаляваны на блакітны колер металічны праваслаўны крыж, перад ім пластмасавыя кветачкі. Насупраць крыжа абгароджаны панадворак, на ім кемпінгавы прычэп і пустата. І самая апошняя хата, пустая таксама, абгароджаная разам з развальваючымся хлявом; стадола ўжо за агароджай. Мо ўжо ў недалёкай будучыні на месцы людных калісь Гаркавіч астанецца толькі ўрочышча. А дарожны паказальнік, якога з Піражкоў у Гаркавічы няма, можа ўжо і сапраўды не вельмі патрэбны...

Восем гадоў таму прарочыў я ў „Ніве": „З кургана за вёскай панарама старэйшых кустоў і зусім новых радкоў пасадак. Гаркавічы з новым стагоддзем уваходзяць у новую, мабыць, лясную, будучыню. Не трэба ўжо будзе вазіць нашых кулакоў у тайгу — яна сама да нас завітае".

Слоўнік Каралеўства Польскага каля стодзесяцігадовай даўнасці інфармаваў, што ў Гаркавічах пражывала тады 544 душы. У 1972 годзе „Ніва" пісала: „Каля 10 чалавек з Гаркавіч вывучылася на інжынераў і лекараў, а ўсіх з сярэдняй адукацыяй дык і палічыць цяжка". Пра тое, што яны падаліся ў незваротнае гарадское бежанства, тады не пісалася.

Ад Сукавіч пах свінскага гною, значыць нехта ў вёсцы вядзе свіную ферму. У Сукавічах таксама ёсць шмат пустых хат, але гэтая вёска крыху яшчэ лепш абжытая чым Гаркавічы. Перада мною ад'ехала аўтакрама, але чатыры пакупніцы яшчэ не разышліся. Яны на вуліцы абменьваюцца сваімі навінамі. Даведваюся, што навіны з другога канца вёскі дастаўляе ім тамашні мужчына; тут людзі яшчэ не абмяжоўваюцца толькі да вестак з Варшавы і Галівуда. Аўтакрамы наведваюць Сукавічы па сутнасці штодзённа, раз у месяц лістаноша дастаўляе жыхар(к)ам вёскі пенсіі.

У Шудзялаве вуліца Банкавая, па якой філія Сакольскага кааператыўнага банка. Перад банкам аўтастаянка, пусценькая, нічога на ёй няма, хаця нейкі след самахода там ёсць. Каля банка невялікі парк, засыпаны снегам, у ім два крыжы: адзін лацінскі, адзін візантыйскі. У парку два валуны, але што на іх адзначыць, яшчэ, відаць, адпаведныя органы не прыдумалі...

Падалося мне, што агульны пейзаж некаторых нашых вёсак можа быць надта ж падобнай копіяй таго, які быў тут амаль сто гадоў таму.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Хлеб, соль і вада

**У народзе кажуць, што пра канкрэтнага чалавека найлепш даведацца, заглядаючы на яго кніжную паліцу ці сустрэўшыся з яго сябрамі. Я, ўсё-такі, думаю што найлепш заглянуць у яго халадзільнік.**

Сёння, у рамках «Кулінарных вандровак у часе і прасторы» даведаемся, што ў сваім халадзільніку трымаюць бацюшка Аляксандр і матушка Людміла Клімукі з Успенскай царквы ў Паўночным Востраве.

Варта дабавіць, што з гасціннымі гаспадарамі сустракаемся якраз у час Піліпавага посту.

У вочы кідаецца перш за ўсё чыстая, невыкарыстаная прастора халадзільніка. Бацюшка па чарзе пералічвае прадукты: буракі, ільняны алей, грыбны суп, рыбная паста, пладовыя прадукты, падораныя ўдзячнымі парафіянкамі.

— Калі б выняць мяшок спечаных на патрэбы багаслужбы прасфорак, застанецца зусім няшмат, — сцвярджае айцец Аляксандр.

Пытанне пра значэнне харчавання айцу Аляксандру здаецца надта складаным.

— Калі з'ем, а калі не даем, я ніколі не прыдаваў гэтаму ніякага значэння, — гаворыць святар. — Мабыць, і не толькі я так думаю. Хопіць параўнаць нашую, надта сціплую вігілію з польскай з 12 страў.

— Каб мець сілу да працы і малітвы, трэба харчавацца, — дапамагае ў пошуку адказу матушка Людміла.



Матушка і бацюшка на кухні

Ян Хрысціцель на пустыні жыў і саранчой карміўся, а бацюшка з'есць тое, што нарыхтуе яму матушка. У Піліпаўку, канешне, мяса яму не зварыць, але бывае, што часам і гэтае недзе скубнецца.

— Капуста, бульба, гарох на алею, у нас усё па-просту, — тлумачыць матушка. — Калісь парафіянкі прынасілі мне аўсяны кісель, але ўжо іх няма, паўміралі. Бацюшку ўсё-такі найбольш смакуе смажаная бульба з хлебам. У бульбу дабаўляю яшчэ смажаную цыбулю і мяшаю гэта з соллю і перцам.

Любоў да «сімвалу беларускасці» айцец Аляксандр вынес з роднай хаты ў Кузаве, што каля Чаромхі. Яго маці заўсёды на вячэру рыхтавала вараную ў шкарлупінах бульбу і квас. Елі тады з адной міскі, таму і не аб'ядаліся.

Цяпер кожны мае сваю талерку, таму за стол неабавязкова садзіцца цэлай сям'ёй. Ядуць, калі атрымаецца. У сям'і Клімукоў сняданак можа пачацца ў абедзенны перапынак ці на вячэру, а бываюць такія дні, напрыклад велікапосныя, калі яго ўвогуле няма.

— Абед гэта працяг малітвы ў царкве, — тлумачыць матушка Людміла. — У прошлую нядзелю, для прыкладу, адправіліся мы ў філіяльную царкву ў Грыбоўшчыне, адкуль разам з нешматлікімі ўдзельнікамі багаслужбы вярнуліся на сняданак з грыбнога супу і варэнікаў.

— Пост — справа індывідуальная, — тлумачыць бацюшка. — Сутнасць не ў тым, каб адмаўляцца ад мяса і аб'ядацца, для прыкладу, рыбай. Таксама даволі складана пасціць, карыстаючыся грамадскім харчаваннем. Тут асноўная малітва.

— Але, каб адчуць смак святочных страў, трэба трымаць пост, — вырашае матушка.

Найважнейшым і найчасцей спажываным прадуктам харчавання бацюшка Аляксандр лічыць хлеб.

— Ён найбольш шанаваны нашым народам. Хлеб гэта таксама святое прычашчэнне.

Тут бацюшка напомніў сабе легенду пра рускага цара, які аднойчы адправіўся ў манаскую пустэльню. Там, згаварыўшы малітву, сеў з манахам да трапезы, якая складалася з хлеба і вады. Цар, як аказалася, захапіўся новым адкрыццём — незвычайным і самым лепшым у свеце смакам сухога, манаскага хлеба.

Калісь у госці да спадарства Клімукоў завітаў айцец Герман з Супрасльскага манастыра, які таксама сцвердзіў, што няма на свеце нічога смачнейшага, чым сухі хлеб з гарбатай.

— Ніхто з пустэльнікаў не думаў пра яду, — кажа бацюшка. — Думалі толькі пра Бога. Існуе такое выслоўе «Даў Бог дзень, дасць і страву».

— Так і быць, — пагаджаецца матушка. — «Хлеб, соль і вада і няма голаду».

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**





У беларусаў ёсць мноства сімвалаў, якія не яднаюць іх у адну нацыю, а наадварот, разводзяць на розныя бакі. Прычым такое дзяленне тычыцца не толькі адносін да знакавых падзей, як напрыклад стварэнне БНР, але і да сцяга, герба і гімна. Бел-чырвона-белы сцяг з'яўляецца свайго роду антыподам чырвона-зялёнага, герб „Пагоня" ўступае ў маўклівы канфлікт з мадэрнізаваным гербам савецкіх часоў, а новыя словы гімна на старую, савецкага перыяду музыку. Увогуле не ўспрымаюцца яны ўсур'ёз, не выклікаюць аніякіх пачуццяў.

Разам з тым маюць і беларусы такі сімвал, які — на дзіва — не раз'ядноўвае іх, а яднае. І гэты сімвал — беларускі арнамент.

У папярэдніх нумарах „Ніва" ўжо пісала пра моду на вышыванкі, якія на фоне падзей на Украіне маюць палітычнае адценне. І хоць наўпростава не дэманструюцца палітычныя погляды тых, хто апранае кашулю з арнаментам, адразу відаць, што гэты чалавек — прыхільнік нацыянальных каштоўнасцей. І да яго ў цяперашняй сітуацыі нават здзеклівыя з усяго беларускага лукашэнкаўскія ўлады мусяць ставіцца паблажліва, з прымусу дапускаючы вышыванку. А не цярпець — немагчыма, бо элемент той жа вышыванкі месціцца на згаданым вышэй чырвона-зялёным афіцыйным сцягу Рэспублікі Беларусь.

Але калі вяртацца менавіта да арнаменту, то ён яднае беларусаў і тым, што многія з нас ніяк не разумеюць, што абазначае нейкі ўзор, якім упрыгожваюць звычайна народныя строі. І мала хто задумваецца што ж стаіць за тымі квадратамі, ромбамі, ламанымі лініямі і гэтак далей, якімі аздаблялі сваё адзенне нашы продкі, а цяпер адданыя павеву моды маладыя нацыянальна свядомыя беларусы.

Літаратуры, якая апісвае беларускі арнамент, даволі многа. „Беларускі арнамент захаваў у сабе старажытную язычніцкую культуру і міфалогію. Шматлікія ўзоры прысвечаныя беларускім язычніцкім багам — Ярыле, Ладзе, Жыжалю, Маці-Зямлі. Калі вышывальшчыца ці ткачыха аздабляла такімі ўзорамі сваю працу — гэта азначала тое, што яна звярталася за дапамогай да гэтых багоў. Былі таксама арнаменты прысвечаныя і святам, такім як Купалле, Каляды, Дзяды і іншыя. Цікава яшчэ і тое, што ва ўяўленнях беларусаў гэта не пярэчыла хрысціянскай веры", — распавядаецца, напрыклад, у кніжцы Міхаіла Кацара „Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка".

Таксама многа літаратуры, дзе можна знайсці апісанне асобных знакаў арнаменту. Больш таго, з распаўсюджанага зацікаўлення вышыванкай у інтэрнэце не так даўно ўзнік сайт, які вельмі падрабязна дае тлумачэнне беларускім арнаментальным сімвалам. Месціцца ён па адрасе http://ornaments.shuma.by і выглядае даволі проста. З левага боку ў алфавітным парадку назвы знакаў, напрыклад „Абуджэнне зямлі", „Агонь", „Агонь жыцця" і гэтак далей, а з правага — уласна сімвалы, якія высвечваюцца, калі клікнеш на якую-небудзь назву. Калі ж клікнуць на знак, то з'яўляецца яго тлумачэнне.

Інфармацыі пра сайт, які будзе карысным для тых, хто захоча зразумець беларускі арнамент, не так многа. Яна знаходзіцца пад літарай „І" ў правым верхнім вугле.

„Разам з даследнікамі этнаграфіі нам удалося скласці калекцыю традыцыйных сімвалаў Беларусі з іх значэннямі. Цяпер гэтыя рысункі можна смела сцягваць. Калі ласка, карыстайцеся на здароўе: сцягвайце, друкуйце, вышывайце, рабіце татуяванкі ці што заўгодна. Дазнавайцеся пра сябе болей!" — пішуць стваральнікі і натхняльнікі сайта, прозвішчы якіх месцяцца там жа.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



Адзін з пачынальнікаў

# 215 гадоў з дня нараджэння Яна Баршчэўскага

Беларускі пісьменнік, выдавец, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі нарадзіўся ў фальварку з прыгожай паэтычнай назвай Мурагі (тагачасны Полацкі павет, цяпер Расонскі раён). Паходзіў з сям'і святара шляхецкага роду. Адукацыю атрымаў у знакамітым Полацкім езуіцкім калегіуме, там прыдбаў рэпутацыю чытальніка-аратара і вершапісца. Вядома, што ў 1809 г. напісаў паэму ў класічным стылі „Пояс Венеры", якая, на жаль, не дайшла да нас. Студэнцкія канікулы Баршчэўскі найчасцей праводзіў у вандроўках па наваколлях возера Нешчарда. Збіраў у час гэтых экспедыцый беларускі фальклор, апісваў курганы і гарадзішчы.

Ян Баршчэўскі быў майстрам паэтычных экспромтаў і таму жаданым госцем на сямейных урачыстасцях вясковай шляхты. Першыя вядомыя яго вершы на беларускай мове — „Дзеванька" (прысвечаны каханай дзяўчыне па прозвішчы Максімовіч) і „Бунт хлопцаў". Таксама Баршчэўскі любіў маляваць краявіды і карыкатуры, якія мелі дастатковую папулярнасць.

Пасля заканчэння калегіума прыблізна ў 1816 г. працаваў настаўнікам і гувернёрам у розных мясцовасцях на сваёй малой радзіме. Падарожнічаў па беларускіх землях, збіраў фальклор. У сярэдзіне 1820 гг. пераехаў на стала ў Пецярбург, дзе выкладаў грэцкую і лацінскую мовы ў розных навучальных установах, вывучаў старажытную літаратуру. Выконваючы даручэнні марскога ведамства, пабываў у Фінляндыі, Францыі, Вялікабрытаніі, вандраваў таксама па Полаччыне і Мсціслаўшчыне. У Пецярбургу пазнаёміўся з Тарасам Шаўчэнкам і Адамам Міцкевічам.

У 1840-1844 гг. Баршчэўскі разам з іншымі членамі літаратурнага гуртка, які складаўся галоўным чынам з выхадцаў з Беларусі, займаўся выданнем на польскай мове штогадовага альманаха „Незабудка". Падтрымліваў творчыя сувязі з сябрамі гуртка і яго карэспандэнтамі — пісьменнікамі Вінцэнтам Давідам, Станіславам-Аўгустам Ляховічам, журналістам і крытыкам Рамуальдам Падбярэскім, літаратуразнаўцам і гісторыкам Ю. Барташэвічам, мастакамі Казімірам і Рудольфам Жукоўскімі, многімі іншымі творчымі людзьмі. На старонках «Незабудкі» Баршчэўскі друкаваў пераважна апавяданні ў вершах. Ад класіцызму паступова перайшоў да раманатызму. У 1843 г. у часопісе „Rocznik Literacki" упершыню былі надрукаваныя яго беларускія вершы „Дзеванька", „Гарэліца", магчыма ім апрацаваная народная песня „Зязюля".

У 1844-1846 выдаў свой галоўны твор — кнігу «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», асобныя часткі якога раней друкаваліся ў часопісах „Rocznik Literacki" і „Atheneum". Матэрыяльную дапамогу ў выданні кніг Баршчэўскага здзейсніў віленскі пісьменнік А. Здановіч. У часопісе „Рубон" у 1847 годзе выйшла другая частка аповесці „Драўляны дзядок і мадам Інсекта".

У канцы жыцця Баршчэўскі па запрашэнні польскага пісьменніка Генрыка Ржавускага пераехаў у горад Чуднаў на Валыні. Пасяліўся ў доме графіні Ю. Ржавускай, дзе таксама жыў вядомы мастак-графік Напалеон Орда. Баршчэўскі далей збіраў матэрыялы пра археалагічныя аб'екты, падарожнічаў. У 1849 г. у Кіеве выдаў першую частку зборніка „Проза і вершы" (на польскай мове), куды ўвайшлі балады, паэма „Жыццё сіраты", аповесць „Душа не ў сваім целе". У канцы 1840 гг. захварэў на сухоты і пасля працяглай хваробы памёр 12 сакавіка 1851 г. Пахаваны ў Чуднаве.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

8 ☞ працяг

## Прызыванне Заблудаўскага цуду

асабліва вылучанай. Мне здавалася, што тады яна была зацюканая людзьмі, у сродках масавай інфармацыі, але калі б мяне ў такім узросце такое сустрэла, я таксама, верагодна, адчувала б сябе як напужаны звярок. Аднак, прымала гэты дар з хваляваннем і пакорай. Мабыць, да канца не ўсведамляла таго, чаму так пераследуюць яе людзі. Усе з вуснаў у вусны перадавалі вестку, што такая вялікая падзея ў нас была. У Заблудаве людзі збіраліся на вуліцах, мы глядзелі ў сонца, у напрамку цуду. Гэта было вялікае перажыванне. У сродках масавай інфармацыі нас палохалі пагрозай брушнога тыфу, што будуць распаўсюджвацца хваробы, але мы ведалі, што гэта была палітыка камуністычных улад (...). Нават большыя месцы адкрыццяў Касцёлам хутка не прызнаюцца.

### СЯМЕЙНАЯ ПАМЯЦЬ

Малгажата Каспаровіч, мясцовая настаўніца і катэхетка, нагадала сямейныя ўспаміны:

— Мне 46 гадоў, так што я не бачыла цуду, але жывы ён у маёй сям'і. Калі я збіралася на сустрэчу, мая маці пачала нагадваць сабе аб ім. Калі мне расказвала, я адчувала, што сярод людзей было там вялікае імкненне да Пана Бога. Калі толькі кончыла працу ў 22 гадзін, хоць было цёмна, адразу ішла з сяброўкамі, каб памаліцца ў гэтым месцы. Людзі туды сцякаліся масава, былі такой вялікай еднасцю, хацелі маліцца разам. Бабуля тады забірала дадому людзей нанач, хоць за гэта пагражалі вялікія штрафы. Бабуля і дзядуля мелі поле недалёка ад месца адкрыцця. Цяжка было туды дабрацца, таму што міліцэйскія шпалеры там стаялі, і трэба было мець спецыяльны дазвол. Мама ў абутку насіла пасведчанне аб вакцынацыі супраць брушнога тыфу, таму што яго правяралі па дарозе. Гэтыя ўспаміны трохі патухлі, але цяпер, дзякуючы кнізе, гэтая іскарачка ўваскрасае.

Іншая жыхарка Заблудава Барбара Каральчук сказала:

— Мне тады было два гады, так што я нічога не памятаю, але мае бацькі сказалі мне, што натоўпы ў Заблудаве былі велізарныя. Людзі прыязджалі з усіх куткоў краіны. Вуліцай Беластоцкай часам нават прайсці было немагчыма.

На сустрэчу з аўтарам «Цудоўнай» прыйшлі таксама заблудаўскія навабраныя ўлады, уключаючы асабіста бургамістра Адама Таманка, які ў пачатым якраз тэрміне — як нам адзначаў — робіць стаўку на шматкультурнасць гміны, якая «павінна яе аб'ядноўваць і быць яе моцным бокам, і на яе павінны мы ставіць»:

— Якраз у 1965 годзе я ў Заблудаве нарадзіўся. Вось тое, што я чуў пра цуд, ува мне дзесьці засталося. Кожная магчымасць, каб гэтую падзею захаваць для нашчадкаў, вельмі добрая. Я рады, што кніга паказалася. Гэтая падзея засталася ў памяці ўсіх заблудаўцаў, і католікаў, і праваслаўных.

Сярод гледачоў адчувалася, што «заблудаўскі цуд» абуджае ўспаміны і да гэтага часу гэта нярaз адчувальная тэма.

Пётр Нестаровіч:

— Цуд часткова забілі камуністы, якія з ім вельмі актыўна змагаліся, але таксама спрычыніліся да гэтага і самі гараджане з-за сваёй зайздрасці і шкоднаснасці. Памяць аб ім гасла і цяпер можа шкадуюць, што не пашырыўся як у іншых месцах адкрыццяў у Польшчы, што не стаў месцам, дзе паставілі сапраўдную капліцу, храм, што не стаў месцам культу-паклання.

А сама Ядвіга Якубоўская? Пасля адмовы ад манаскага жыцця заснавала сям'ю і поўнасцю ёй ахвяравалася.

Аўтар «Цудоўнай»:

— Ядвіга па-ранейшаму перакананая, што Маці Божая явілася перад ёю і я ёй веру. Пасля размоў, якія я правёў, веру, што цуд не быў выдуманы ёю і яе сям'ёй. Для яе размовы пра гэта былі вельмі цяжкія, і за гэтыя гады іх пазбягала і пазбягае, таму што яна па-ранейшаму апасаецца эмоцый, якія гэта можа выклікаць. Цяпер, калі з'явілася мая кніга, зноў перажывае цяжкі перыяд, таму што надалей пра яе гавораць.

У адной з размоў з аўтарам «Цудоўнай» Ядвіга прызнаецца, дасюль не хаваючы свайго здзіўлення:

— На самой справе я не ведаю, чаму я была абрана. Нічым не вылучаюся.

Тэкст і фота
**Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

1. тоўсты сноп саломы = 23 _ 24 _ 2 _ 29 _;
2. цестападобная сумесь = 19 _ 12 _ 10 _ 16 _;
3. ўкладзеная доля капіталу = 15 _ 20 _ 21 _;
4. 5 = 11 _ 22 _ 13 _ 14 _;
5. перыяд, ступень развіцця = 25 _ 26 _ 27 _ 4 _ 7 _ 9 _;
6. сабачка жаночага роду = 8 _ 5 _ 6 _ 1 _ 3 _;
7. незвычайная з'ява = 28 _ 18 _ 17 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 48 нумара**

Волагда, Дзева, шыла, волат, Ева, шарыят, Левант, вера, Швед, тога, бойка, сто, мыш, адклад.

Рашэнне: **Гавары што ведаеш, але ведай што гаворыш**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## СПРАВЯДЛІВЫ ГАРАСКОП на 2015 ГОД

**Баран (22.03. — 20.04.)** З размахам пачнеш рэалізаваць свае планы, што прынясе працэнты. Пазнаёмішся з людзьмі, якія пакажуць табе новыя прафесійныя магчымасці. Закахаешся па самыя вушы (2-12.03.). Паявіцца нагода памяняць жыллё. Асабліва добра ў інвеставанні 1-9.08. Ужо ў студзені можаш разгарнуць крылы ў кар'еры. У кастрычніку маеш зялёнае святло для нават рызыкоўных прыёмаў. 11-21.10. заззяеш інтэлектам і творчасцю. У снежні падганяй хвасты. 5-13.09. будзеш мець цікавыя задумы і энергію для іх рэалізацыі 3-10.10. не вер у прыгожыя абяцанні, глядзі на дзеянні.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Будзеш спакойны і менш амбітны, але нічога не страціш. А нават здабудзеш штосьці экстра. Найбольш шчасця ад кантактаў з сям'ёй і сябрамі. Амур пастукае ў твае дзверы ў другой палове лютага, у маі і ў канікулы. Добры час на шлюб: 2-7.08. 13-22.04. пільнуй свайго языка і нерваў. У кашальку можа павеяць холадам на пачатку ліпеня; заранёў пачні ашчаджаць; 19-28.10. кашалёк папукаціцца. Спакайней на рабоце; з калегамі не толькі працуй. На пачатку кастрычніка шырока адкрыюцца раней зачыненыя дзверы. Знаёмствы ад 8-20.09. дадуць працэнты ў будучыні. Дбай аб здароўе, змяні дыету. 12.07.-22.08. можа да цябе дарвацца інфекцыя, якая будзе доўга турбаваць.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Разумныя рашэнні, прагрэс у кожнай галіне. На працы выкажаш больш самастойнасці, дома ўвядзеш новыя прынцыпы. 12-17.01. маеш шанц знайсці кагосьці арыгінальнага, хто будзе тваім дапаўненнем. Але стаў на старых, правераных знаёмствах і сяброўствах. 16-22.01. папоўніцца кашалёк, ды не расходуй усяго, бо на пачатку сакавіка твой рахунак стане страшна пустым. Пасля 11.04. там пацяплее, ды летам зноў зацягнеш пугу, аж да 8-20.09. Працавіты год і шмат спраў для ўпарадкавання. Ключ — працавітасць і сістэматычнасць. У ліпені не плануй адпачынку, бо ў фірме будзе рашацца твой лёс. 13-18.07. мноства заданняў і ад таго шмат грошай. 5-15.05. замяшанне на працы, не спрачайся з шэфам. Дбай аб стрававальны шлях, змяні дыету, абмяжуй алкаголь, тлушч, муку і цукар.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Год поспехаў і зайздроснікаў. Можаш разлічваць на партнёра і сям'ю. Не шкадуй грошай на свае мары. Ад 25.06. забудзеш аб комплексах і рушыш уперад. 23.10.-9.11. адкрыеш, што хтосьці, з кім лучыць цябе праца, гэта для цябе хтосьці больш чым калега. Новае каханне прыйдзе ціха і без феерверкаў, але будзе сур'ёзным, трывалым і шчаслівым. У першую палову года (да 11.08.) будзеш множыць сваю маёмасць; але не збірай грошай у шкарпэтку, капітал укладвай (найлепшая нагода — першая палова ліпеня). Не хавайся за іншых на працы, не блакуй сам сваёй кар'еры, абучайся. На працы прымяняй прынцып абмежаванага даверу. 16-28.09. не падпадзі шэфу або прадстаўніку ўлады!

**Леў (24.07. — 23.08.)** Сёлета ты абраннік зорак, да чаго дакранешся — заменіцца ў золата! Выкарыстаеш кожную сітуацыю, каб зарабіць і пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. На пераломе лютага і сакавіка можаш сустрэць кагосьці, хто перакуліць тваё жыццё. Дом можа перажыць землятрус. У фінансах выйдзеш на простую дарогу. Грошы могуць прыйсці да цябе з новых неспадзяваных крыніц. На працы найбольш поспехаў у першай палове года. Крэпкае здароўе, зашкодзіць можа толькі твая бяздумнасць. 28.06.-14.07. — час абсалютнай радасці, неспадзяваны грашавіты прыліў, самотны Леў сустрэне асобу з мараў.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Удасца зрэалізаваць табе задумы, якія даўно чакалі свайго часу. Новыя шанцы. Не бойся рызыкі. Пераможаш усе абмежаванні, нішто і ніхто цябе не стрымае! 19-28.10. пазнаёмішся з вясёлай, маладзейшай ад цябе кампаніяй. Першая палова году — яшчэ час ашчаднасці, не бяры ніякіх пазык. Ад 11.08. аддыхнешся, прыйдуць чаканыя грошы, усе дзяржаўныя і судовыя справы пойдуць у тваю карысць. У кар'еры асабліва ўдалыя другая палова верасня і першая дэкада кастрычніка. Папсуеш планы канкурэнцыі! На пачатку лістапада навучышся чагосьці новага, што неўзабаве прынясе рэальныя прыбыткі. Але 11-17.12. задачы могуць быць не пад сілу у табе. У маі і чэрвені будзеш слабейшы, асабліва пільнуйся за рулём. Дбай аб сваю пячонку і стан халестэрыну.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Удасца зрэалізаваць усе твае планы, калі будзеш працавіты і сарганізаваны. Вакол цябе паявяцца новыя твары. Будзеш шчасце да людзей. Асабліва 16-27.02. маеш шанц наладзіць шматабяцальныя знаёмствы і ўразіць іншы пол. 2-7.08. можаш сустрэць асобы багатыя, уплывовыя і нават славутыя, якія могуць уцягнуць цябе ў сваё кола. У фінансах не пашалееш, як хацелася б. Збярэш столькі, колькі засееш. Кар'ера таксама будзе ісці чарапашым крокам, але ўперад. У здароўі чырвоным колерам памець першую дэкаду ліпеня і пачатак верасня.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Праблемы, асабліва фінансавыя, забудуцца. Аддыхнешся і разгорнеш крылы. Знойдзеш шчасце ў абдымках партнёра і ў доўгіх размовах з сябрамі. Самотны Скарпіён можа разлічваць на шмат спрыяльных выпадкаў. Неспадзявана спаткае кагосьці, ад каго хутчэй заб'ецца яму сэрца, асабліва 28.06.-14.07. і 2-7.08., гарачыя канікулы (з іх штосьці большага не вынікне). Цудоўны час для пачуццяў — канец года. Павышэння не чакай, прынамсі да восені. Нават калі ўбачыш у партфелі дно (другая палова красавіка, май, канец жніўня), спраўна знойдзеш дадатковую крыніцу прыбытку. У верасні дрыгне ў фінансах. Не пазычай іншым грошай. 11.08. зможаш пераарганізаваць хатні бюджэт. 18-25.04. бярыся за самыя цяжкія задачы. Год Скарпіёнаў, якія займаюцца навукай і тэхнікай. У канцы снежня прафарсіруеш свае рацыі, здабудзеш уплывовых саюзнікаў. Здароўе не будзе турбаваць як дасюль, але ў снежні парабі абследаванні.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Будзеш цаляць высока, ды лічыся са сваімі абмежаваннямі. Паставіш не на колькасць, а на якасць. 16-22.01. цікавыя кантакты, добры час на падарожжа за мяжу. Пахаладзее ў парах. Зведаеш, што такое вернасць і сталасць, якія маюцца ад сур'ёзнага партнёра (можаш сустрэць яго 19-28.10.). Даведаешся, што грошы не падаюць з неба і няма нічога дарам, канчацца льготы і прывілеі. Але не жыві адно хлебам і вадой! У кар'еры да 11.08. будзеш на хвалі, поспехі на працы, падтрымка супрацоўнікаў і шэфа. Будзеш гожы і здаровы, але 10-20.09. вельмі дбай аб сябе, навядай спецыялістаў.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Павер ва ўласныя магчымасці. Давядзеш да канца ўсе мерапрыемствы. Не будзе такіх цяжкасцей, з якімі не справішся. Рамонт рабі 15-25.04. Не дай сябе падмануць 16-22.04. і 5-16.05. На працы твая творчасць дасягне апагея. Час супер для рэалізацыі амбітных намераў. У палове жніўня наладзіш кантакты, ключавыя для тваёй кар'еры. 23.10.-9.11. стане перад табою асоба, для якой можаш страціць галаву.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Карусель захапляючых здарэнняў і шчаслівых выпадкаў. Захочаш радыкальных змен і пойдзеш іншай дарогай. Будзь адважны і не бойся эксперыменту. Вясна багатая ў нагоды для хуткага заробку. Ад лютага да красавіка разумныя задумы і падмацоўка хатняга бюджэту. Будзеш у добрай форме, ды сабе не патурай, асабліва дбай аб стрававальны шлях. У другой палове верасня будзе табе спрыяць шчасце на працы і дома, неспадзяваныя выпадкі развяжуць твае праблемы.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Спадзявайся на сябе і сваю інтуіцыю. З надзеяй прывітаеш новыя выклікі, прыгоды і каханне. Не давярай ілюзорным і прыгожым абяцанням. Ад 11.08. тваёй кар'еры будзе падсвечваць Юпітар. 16-27.02. мімалётны раман ці знаёмства можа перамяніцца ў пастаянную і ўдалую сувязь. У палове кастрычніка паверыш у сябе, многія поспехі, пахвалы. 26-30.07. не бяры на сябе ролі пасрэдніка ці негацыянта. Да жніўня не прытварайся мацаком, неператамляйся, добра высыпайся, асабліва на пераломе мая і чэрвеня.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***

**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 12 000 egz.

# Украіна ў цяні вайны (13)

**— Украіна толькі і трымаецца на руплівасці жанчын, увесь клопат за выжыванне на бабскай галаве, — кажа Валя. — А зараз, калі вайна, дык ашалець можна.**

Валя думала няраз, каб усё кінуць і пайсці на фронт, адарвацца ад земных турбот. Бо што яна мае ад свайго жыцця? Выязджала працаваць у Нямеччыну, дык бачыла як там жывуць кабеты. Які там дастатак, роскаш! Колькі грошай на адну касметыку і розныя гарбаткі траціць. А тут не даясі, не даспіш, ледзь канцы з канцамі зводзіш. Прыйдзеш з адной работы, у хаце другая работа. Навары, задбай пра агарод, накармі курэй і качак, прыбяры ў хаце. Яшчэ і кароўку падаіць трэба, вывесці яе на папас, каб не раўла з голаду ў хляўку.

У час нашага падарожжа моцна застрагла ў памяці адна карціна. На ўскраінах гарадоў і мястэчак замест дам з пародзістымі сабачкамі мы ўсё бачылі жанчын з каровамі. Яны пасвілі сваіх красуль побач спартовых пляцовак і стадыёнаў, над берагамі рэк і сажалак, ля гарадскіх сметнікаў або ў прыдарожных равах. Гэта ўсё напамінала расказы з мінулага пра голад і холад, дзе жывая карова была важным звяном у гаспадарцы, бо яна дазваляла пракарміцца ў скупыя на ўраджай гады. У сучаснай украінскай рэчаіснасці карова спрыяе яшчэ падзарабіць. Ва ўсіх карпацкіх мястэчках ля кожнага маркета ці крамы можна было набыць малако ў пластмасавай бутэльцы з-пад мінеральных, камякі белага сыру, кавалкі жоўтага масла ці смятану ў слоіках. Хатнія прадукты людзі прадавалі па значна меншай чым у магазінах цане. Маладыя саромеліся свайго занятку.

* * *

З Валяй пазнаёміліся мы ў маршрутцы, якая везла нас з Мукачава ва Ужгарад. Жанчына безупынна камусьці званіла. Па тым, што гаварыла ў трубку, і глухі здагадаўся б пра яе вялікі клопат і трывогу. У вочы кінуліся яе апухлыя ступні, прыаздобленыя ў сярэбрана-ружовыя басаножкі. Ліхі абутак трымаўся ног дзякуючы скотчу, якім Валя абляпіла ступні. Побач ног стаялі агромністыя паласатыя сумкі з хатнімі сырамі, малаком і смятанай. За прададзеныя прадукты яна купіць ад знаёмага гандляра брэндзі *made in Ukraina*. Ну, самагонку, кажучы. Апошнюю вестку Валя заявіла з шальмоўскай усмешкай і на міг памаладзела.

У якасці закусі сасмажыць зайца ў смятане і рулет з сарніны, нашпігаваны журавінамі. Далікатэсы, што пальчыкі абліжаць. Усё са сваіх прадуктаў, бо Валін чалавек — паляўнічы. Будуць марынаваныя грыбы, агурцы, востры перчык. Валя спячэ яшчэ торт з чарніцамі і смятанай для дзяўчат, купіць шампанскае. Пасля гасціны маладыя пойдуць на дыскатэку.

Раптам расказ пра кулінарыю абрываецца і Валя пачынае плакаць. Па шэрай шчацэ сплываюць слёзы, зафарбаваныя чорнай тушшу ад макіяжу.

— Лепш каб людзі не ведалі такіх банкетаў! — заяўляе з горычу.

— А што такое? — пытаю і адчуваю, што ў мяне таксама ўжо дрыготкі голас.

— Мой сынок мабілізаваны ў армію, — кажа спадцішка, быццам прызнавалася ў нейкай тайне. Зараз ёй трэба зрабіць развітальны прыём для сяброў сына, каб было ўсё як у людзей. А гэта ж немалы, датковы кошт. За яе пенсію медсястры нават пракарміцца нельга. Ды ў хаце яшчэ застануцца дзве малодшыя дачушкі. Апошняя справа застаўляе змагацца і не пакідаць веры.

— Як добра, што яны ў нас нарадзіліся дзяўчынкамі, — цяжка ўздыхае жанчына. — Не трэба на вайну адпраўляць.





* * *

Цягам нашага падарожжа я назірала за мужчынскім полам, якому выпала абараняць краіну. Толькі дзе-нідзе можна было прыкмеціць баявітых маладзёнаў, якія фарсілі па вуліцах у ваеннай форме, пашытай на ўзор амерыканскага войска. Такія апранахі можна купіць у магазінах з вопраткай для паасобных прафесій. Карацей, медсястра можа набыць там халат, трэнер — спартовы касцюм, а чорнарабочы — аранжавую камізэльку са святлоадбівальнымі палоскамі. Гітам апошняга сезона, па зразумелых прычынах, сталі вайсковыя і мілітарныя апранахі. Апрача палявых вайсковых мундзіраў у трэндзе панаваў чорны *дрэс* з гумовымі нашыўкамі на каленях. У апошні строй, дзеля непазнакі, пераадзеліся данскія казакі, якія ахоўвалі Пачаеўскую лаўру.

Пераапранутыя мужыкі рэзка адрозніваліся ад сапраўдных жаўнераў, якіх мы сустракалі звычайна на вакзалах. Найбольш кідалася ў вочы іх моладасць і дзявочая прыгожасць. Украінскія маладзёны смела маглі б паслужыць як прыклад культуры гендэр. Разам з далікатнасцю яны дэманстравалі сваю адрэальненасць. Чалавек глядзеў і нічога не разумеў: дзе ж падзеліся тыя бясстрашныя і звышраманітычныя казакі?

Хлопцы ў нашай маршрутцы прыкідваліся невідушчымі, быццам іх не было на зямлі. Усе, як адзін мужык, калупаліся ў сваіх мабілках або айфонах, або камусьці званілі. Іх не цікавіла, што побач іх фатэляў, у дзікім сціску тоўпіліся іх равесніцы-прыгажуні. Ніхто не саступіў ім месца, ці хоць бы завёў размову. Здавалася нават правільным, што гэта прыгожыя маладзёны, а не дзяўчаты, выседжваюць у выгадзе і камфорце. Іх далікатнасць і прыгожасць у цяні брутальнай вайны яшчэ больш здавалася нявіннай і безабароннай. Што будзе, калі іх пасадзяць у танк і загадаюць страляць?

І Валя, засяроджаная на падрыхтоўцы банкету, быццам у адказ маім думкам, сказала пра фронт:

— На вайне нашыя хлопцы галадаюць і ядуць што трапіцца. Няма там у іх ёгуртаў і чэбуракаў. Навараць кіпятку, укінуць жменю круп і кубік булёну. А як яшчэ дабавяць у той кіпяток мясную кансерву — гэта ўжо надта смачна...

* * *

Валя не хацела гаварыць пра вайну.

— Калі паказваюць па тэлебачанні, я пачынаю плакаць, — прызнаецца жанчына. Таму, калі мае хоць адну вольную хвілінку, думае пра стравы, якія згатуе сямейцы. Найбольш думак з'яўляецца ў час, калі выведзе кароўку на папас.

— Яна сабе есць траву, а я думаю які сёння на абед будзе гуляш. Апошнім часам, калі ў навакольных лясах абрадзілі грыбы, кожны дзень варыць грыбную юшку. Калі пытаю пра рэцэпт на юшку, у адказ чую нешта вядомае. Страва напамінае наш калядны боршч, яго толькі трэба заправіць кіслай смятанкай. Праз грыбы і рэцэпты зноў вяртаемся ў размове на фронт.

— Калі б у мяне была магчымасць пайсці замест сына на фронт, я не задумоўвалася б ні адной хвіліны, — заяўляе сцішаным голасам.

Наша размова зноў нечакана паварнецца ў лес, дзе Валя нібыта лётае па грыбы і бэткі. Разам з ёй у лес адпраўляецца муж-паляўнічы. Замест кошыка ён бярэ сваю стрэльбу. І не страляе ў зайцоў ці аленяў.

— Ён вучыць мяне як страляць, каб не марнаваць патронаў і як хавацца, калі абстрэл. Бо калі прыйдзе вайна, усё гэта прыдасца. — Апошнія словы Валя адварочвае дагары нагамі і механічна дэкламуе: — Вайна, канешне, да нас у Закарпатыю не дойдзе!

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



У дарозе Валя падзялілася з намі рэцэптамі на марынаваныя гуркі і памідоры. Падыктавала іх з галавы, каб такім чынам аддзячыць нам за ўвагу і зразуменне яе гора і трывогі за сына.

Першы з іх я праверыла. Марынады выдатна падыходзяць як закусь да брэндзі made in Ukraina.

### Кіслыя гурочкі з соўсам „чылі"

Памытыя гуркі кладзем у слоікі і заліваем іх расолам, які трэба зрабіць з:
1 літра вады,
1 пакета таматнага соўсу „чылі",
2 лыжак солі,
1 шклянкі воцату,
1 шклянкі цукру.
Памяшаць і давесці да кіпення. Калі хто любіць пякельную вастрыню, трэба дабавіць пакет перцу „чылі" ў парашку.
Пасля, калі вар астыне, заліце ім гурочкі.
Слоікі пастэрызаваць 30 хвілін.

### Марынаваныя памідоры

На ніз слоіка пакласці цыбулінкі дымкі. Пасля ўлажыць памідоры і заліць заправай, якую рыхтуем так:
На 7 літраў вады трэба
2 шклянкі цукру, 1 шклянку солі,
2 шклянкі воцату, лаўровы лісток, чорны перац. Усё давесці да кіпення і астудзіць, заліць заправай памідоры. Пастэрызаваць 30 хвілін. Заправы хапае на 15 літровых слоікаў.

ISSN 0546-1960